


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

30 мая 2003 года

№ 22 (423)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Выйгралі ўсё

МАЛАДЗЕЧНА. На мінулых выхадных у Светлагорску прайшоў рэспубліканскі конкурс харавых калектываў дзіцячых школ мастацтваў. Хор малодшых класаў і ўзорны хор старэйшых класаў "Журавачка" з дзіцячай музычнай школы занялі першыя месцы ў сваіх узроставых групах. А мастацкі кіраўнік "Журавачкі" **Вольга Бялько** прызнана лепшым мастацкім кіраўніком. Маладзечанцы павезлі з сабой галоўныя прызы фестывалю: тэлевізар "Гарызонт" і відэамагнітафон.

**Уладзімір КОХНА.**

### Начное здарэнне

ВІЛЕЙКА. 25 мая а палове трэцяй гадзіны ночы па вуліцы Чапаева бліз завода "Зеніт" адбылося ДТЗ. Загінула 45-гадовая жанчына, а яшчэ тры чалавекі атрымалі цялесныя пашкоджанні.

С., які працуе шафёрам у Вілейскім райвыканкоме, рухаўся на ўласным аўтамабілі "Мэрседэс-300Д" і, калі абмінаў адну групу пешаходаў, якія ішлі па праезнай частцы, наскочыў на другую.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

### Вада ў школе

ВАЛОЖЫН. На працягу 10 дзён 2 прадстаўнікі "Групы дапамогі" з нямецкага горада Мёнхенгладбах правялі ваду ў харчовы блок Шчалканаўскай базавай школы.

Ад калодзежа, што ў двары, яны праклалі трасу. На кухні змантаравалі аўтаматычную ўстаноўку для падагравання вады і абклалі пліткай кухонныя памяшканні.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Памяці Гашкевіча

АСТРАВЕЦ. У сталіцы надрукавалі матэрыялы Другіх міжнародных чытанняў, прысвечаных памяці першага консула Расіі ў Японіі Іосіфа Гашкевіча.

У кнізе багата матэрыялаў пра жыццёвы шлях і спадчыну гэтага дыпламата і вучонага, мінулае і сучаснасць Астравецкай зямлі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Першы дэндра-сад

СМАРГОНЬ. Сквер у мікрараёне "Заходні" ператвараецца ў дэндра-сад.

Тут пракладуць дарожкі, установяць 15 свяцільняў, лаўкі, тры новыя альтанкі, адрамантуюць стары дзіцячы гарадок. Пасадзяць кветкі, а таксама паўтары тысячы дрэў і кустарнікаў, што растуць у нашым рэгіёне і рэгіёнах усяго свету і пераносяць наш клімат. Першы ў Смаргоні дэндра-сад будзе гатовы прыкладна да верасня гэтага года, акурат да 500-годдзя горада.

**Галіна АНТОНАВА.**

# Тры месяцы без зарплаты

## Рабочыя станкабудаўнічага завода атрымалі зарплату толькі за люты

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошні раз на заводзе плацілі грошы ў канцы красавіка. З рабочымі расплаціліся за студзень і за люты, а інжынерна-тэхнічны персанал не атрымаў нічога. З таго часу прайшоў месяц, а астатніх зароблених грошай работнікі завода так і не ўбачылі, і працуюць сёння ў доўг.**

Аналізуючы справу станкабудаўнічага завода, цяжка сказаць, хто вінаваты ў тым, што магутнае ў савецкі час прадпрыемства скацілася ў бездань. Цікава было б пагаварыць з былым кіраўніцтвам завода. Менавіта ў апошнія некалькі гадоў завод набраў асноўную частку даўгоў. Але з галоўных асоб мінулага перыяду на прадпрыемстве нікога не засталося. 25 студзеня на пасаду дырэктара прыходзіць **Мікалай Салаўцоў**, праз 3 дні – намеснік дырэктара **Уладзімір Каладзяжны**, прыкладна праз месяц – галоўны інжынер **Аляксандр Шкураў**.

Вось у якім стане яны прынялі гаспадарку: даўгі прадпрыемства складалі каля 1,5 мільярда рублёў. Крэдыторамі станказавода з'яўляліся каля 185 юрыдычных асоб. Станказавод аказаўся вінаватым усім тым, з кім меў партнёрскія сувязі. Былы дырэктар цяпер працуе ў Мінску.



Васіль Яўсееў працуе на станказаводзе з 1994 года. Не атрымаў зарплату яшчэ за люты. Разам з жонкай Марынай выхоўваюць 4-гадовую дачку Машу. Васіля ўтрымлівае на станказаводзе толькі тое, што прадпрыемства дало інтэрнат, дзе і жыве сям'я.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Такі стан не мог не быць заўважаным у гарвыканкоме. Па некалькіх прычынах. На наш погляд, галоўнымі былі дзве: на прадпрыемстве працуюць жыхары Маладзечна, якіх выканаўчай уладзе нельга пакідаць у крытычным фінансавым стане; такое слабае прадпрыемства вельмі псавала агульную карціну сацыяльна-эканамічнага развіцця горада. А гэта адна з прычын таго, што горад апошнія гады з цяжкасцю выходзіць на запланаваныя прагнозныя паказчыкі ў эканоміцы. Аб тым, што справы на прадпрыемстве вельмі дрэнныя, старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** адзначыў яшчэ летась ("РГ" №9 за 1 сакавіка 2002 года). Некалькі гадоў амаль кожны месяц адбываліся нарады па паляпшэнні эканамічнага стану завода. Кіраўніцтва падавала і зацвярджала свой план па выхаду з крызісу, але нічога не атрымлівалася – завод зацягнула багна.

Што зроблена з таго часу, як на заводзе змянілася кіраўніцтва. На некалькі дзесяткаў мільёнаў знізіўся агульны доўг, пагашаны адзін з двух крэдытаў на суму каля 60 мільёнаў рублёў, якія мінулае кіраўніцтва завода брала на зарплату. Павялічыўся ў некалькі разоў аб'ём прамысловай вытворчасці. На завод вярнулі некалькі спецыялістаў-пенсіянераў, што працавалі на заводзе ў савецкія часы. Яны цяпер вучаць сваёму майстэрству маладых: без добрых спецыялістаў у завода няма будучыні. А каб утрымаць кваліфікаваныя рабочыя кадры, станкабудаўнічы завод заключыў з імі кантракты. Дзе абгаворваецца сума заработнай платы, якую абавязкова штомесяц рабочыя будуць атрымліваць. І не на рубель ніжэй.

Але чаму не плацяць рабочым? Уладзімір Каладзяжны лічыць, што замінае гэтаму "Беларусбанк":

– Два тыдні таму мы хацелі ўзяць крэдыт у банка на суму каля 200 мільёнаў рублёў, каб выплаціць зарплату за 3 месяцы. Нам сказалі ў банку, што крэдыт дадуць, але для гэтага трэба пагасіць хаця б адзін з двух раней ўзятых крэдытаў.

Мы сабралі работнікаў завода і папрасілі крыху пацярпець: завод выплаціць банку каля 60 мільёнаў рублёў – гэта прыкладна месячная зарплата, і атрымае крэдыт на 200 мільёнаў, які пойдзе на разлік з рабочымі. Усе згадзіліся пацярпець.

Грошы на пагашэнне крэдыту сабралі. Але галоўнае аддзяленне "Беларусбанка" крэдытаваць нас пакуль не збіраецца, нягледзячы на тое, што гарантыі на крэдыт даюць намеснік міністра прамысловасці, кіраўніцтва гарвыканкома і маладзечанскага аддзялення "Беларусбанка". Галоўны "Беларусбанк" прапануе рэалізаваць адну бартэрна-грашовую здзелку з удзелам брэсцкіх і пінскіх банкаў і заводаў Пінска, Бабруйска і Маладзечна. Цяпер кіраўніцтва станказавода спрабуе пераканаць сваіх калег і рэалізаваць здзелку.

У чацвер раніцай карэспандэнт "РГ" сустрэўся з рабочымі завода, якія скардзіліся на адсутнасць грошай. Асабліва цяжка тым сем'ям, дзе на заводзе працуюць і муж, і жонка: не плацяць зарплату і дапамогу на дзяцей. Атрымліваецца, што маладыя і здаровыя людзі сядзяць на шыі ў бацькоў-пенсіянераў, хаця маюць дзесяткі гадоў працоўнага стажу. А ў іншых і такой дапамогі няма. Затрымкі заработнай платы прывялі да таго, што частка работнікаў не можа плаціць за камунальныя паслугі. Стараюцца аплачваць хаця б тэлефон.

Рабочыя папрасілі праз газету кіраўніцва гарвыканкома прыехаць на завод і сустрэцца з работнікамі. У мяне склалася ўражанне, што крэдыт даверу да цяперашняга кіраўніцтва завода ў рабочых ёсць: крытыкі ў яго адрас не гучала. Рабочыя стараюцца зразумець праблемы кіраўніцтва. Але ў дадатак задавалі рытарычнае пытанне: калі кіраўніцтва вырашыць іх праблемы?

Калі канкрэтна грошы трапяць на станказавод, невядома. Рабочыя просяць пачакаць яшчэ. Напружанне не знятае.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Зацвілі яблыні

У сям'і Гайковічаў з Рагазаў зацвіў яблыневы сад. З сёлетняй вясны ў ім каля 100 яблыняў 10 розных сартоў.



2-я старонка

### Новы расклад руху

25 мая змяніўся расклад руху электрычак і прыгарадных цягнікоў. Новы расклад – у сённяшнім нумары "РГ".



3-я старонка

### «Круглы стол» «РГ»

Начальнік Маладзечанскага ГРАУС Віктар Марозаў: на гарадскіх рынках трэба наводзіць парадак.



4-5 старонкі

■ ВЯСНА

# Зацвілі яблыні

**МАЛАДЗЕЧНА. У сям'і Гайковічаў з Рагазаў зацвіў яблыневы сад.**

Сад малады: першыя дрэўцы пасадзілі 4 гады таму. Але вялікі: у ім каля 100 яблынь 10 розных сартоў. Яшчэ ёсць грушы, абрыкосы, вінаград, слівы, вішні.

Яблыневы сад сёлета не так буяе, як летась, калі цвет быў відаць здалёк. Гаспадыня дома **Наталля Гайковіч**, маці аўтара нашай спартыўнай старонкі **Сяргея Гайковіча**, патлумачыла, што сказаўся сёлетні холад. Другая прычына: трэцяя частка дрэў сёлета адпачывае, і яблыкаў у гэты год там не будзе.

Але ўсё роўна прыгожа. Усё пачалося 5 гадоў назад, калі **Міхаіл Гайковіч** пазнаёміўся з былым намеснікам міністра народнай гаспадаркі БССР з Мінска **Рыгорам Калеснікавым**, які за сваё жыццё пасадзіў і вырасціў многа садоў. Зямля за домам у Гайковічаў пуставала. Жаданне яе ўпрыгожыць і досвед Р. Калеснікава далі станоўчы вынік: вырашылі закласці сад.

Мінчанін дапамог знайсці саджанцы, дапамагаў правільна іх саджаць і расказваў, як даглядаць за садам. Не забываецца праведваць Гайковічаў і цяпер. Вельмі лёгкі на пад'ём, хаця і ўзрост не малады: ужо пад 80. Сад знаходзіцца ў добрых руках і кожны год папаўняецца новымі дрэўцамі.

Першыя гады дрэўцам даюць расці і набыць прыгожую крону, таму большасць кветак з яблынь абрывалі. Але ўраджаю з першых яблынь, якім ужо 4 гады, хапіла на зіму і вясну: сёлета Гайковічы яблыкі на базары яшчэ не куплялі.



Міхаіл Гайковіч у сваім яблыневым садзе. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Міхаіл Феліксавіч і Наталля Сяргееўна расказваюць, што ім па-добрым зайздросцяць сябры і знаёмыя: пабудавалі дом, гадуюць сыноў, вырасцілі сад.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ

# Шаленства не пацвердзілася

**МАЛАДЗЕЧНА. Інфармацыя "Пакусаў сабака", змешчаная ў мінулым нумары, выклікала рэзананс з боку маладзечанцаў.**

У ёй на падставе дадзеных з цэнтра гігіены і эпідэміялогіі гаварылася, што бадзяжны сабака пакусаў трох пачаткоўцаў СШ №11, якія дражнілі яго, а пасля 7 навучэнцаў школы мастацтваў, якія знаходзіліся на тэрыторыі суседняй з СШ №11 установы. Таксама гаварылася, што сабаку злавілі, і яе падазраюць на шаленства. Тром школьнікам, якія атрымалі драпіны, у прафілактычных мэтах робяць прышчэпкі.

У рэдакцыю звярнуліся маці трох пацярпелых школьнікаў, якія заявілі, што іх дзеці не дражнілі сабаку. Пры дадатковым расследаванні гэтая інфармацыя сапраўды не знайшла пацвярджэння. Між тым, незалежна ад прычын укусу, выпадак ардынарным назваць нельга.

Як сказаў дырэктар СШ №11 **Аляксандр Люльковіч**, сабака забег у школу раніцай у 7.45. У гэты час дзеці і падлеткі ішлі ў школу вялікім патокам. Дзверы ў навучальную ўстанову практычна не зачыняліся. Цяпер цяжка сказаць, як сабака аказаўся ў школе: ці хто яго прывёў, ці ён забег сам. Сабака быў вялікі, таму ён мог спужаць дзяцей. Інфармацыю аб тым, што сабака забег у школу, далажылі дырэктару. Тым часам сабака, магчыма, у пошуках выхаду, забег па лесвіцы на другі паверх. Настаўнікі пагналі сабаку да выхаду са школы. Дзяцей заклікалі разысціся па сваіх класах. Званок на першы ўрок далі на 5 хвілін раней звычайнага: у 7.55.

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ №11 **Наталля Карыцька**:

— Сабаку я ўбачыла ўжо на другім паверсе. Я раней цярпела ад сабак, таму ведала, як гэта можа быць небяспечна. На калідорах было шмат школьнікаў, якія разыходзіліся па сваіх класах. Мы адначасова прасілі школьнікаў разысціся і гналі сабаку да выхаду. Сабака кідаўся з кута ў кут. Ці дражнілі дзеці сабаку, не скажу, не бачыла. Галоўнае было - хутчэй выгнаць сабаку са школы.

Сабаку выгналі каля 8.00. Настаўнікі знайшлі двух вучняў з драпінамі ад сабачых укусаў.

Дырэктар СШ №11 Аляксандр Люльковіч:

— Выклалі "хуткую" і спецыялістаў з цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Дактары абышлі класы і знайшлі яшчэ аднаго пацярпелага школьніка. Сталі падазраваць шаленства, і пакусаных дзяцей узялі пад назіранне.

Тым часам сабака забег на тэрыторыю суседняй навучальнай установы. Пакуль выхавацелі збіралі ў памяшканне дзяцей, якія былі на вуліцы, аказалася, што ў семярых дзяцей ёсць невялікія сінякі ад укусаў. Драпін, на шчасце, не аказалася.

А. Люльковіч гаворыць, што яны з бацькамі пачалі шукаць сабаку. Абышлі суседнія двары, апыталі жыхароў, але сабаку так і не знайшлі. На заўтра патэлефанавала дзяўчынка з дома па Ф. Скарыны, якая ведала пра здарэнне, і сказала, што ў яе пад'ездзе на лесвічнай пляцоўцы ляжыць вялікі рыжы сабака. Выклікалі міліцыю, дактароў з ветэрынарнай станцыі і паехалі на затрыманне.

Сабаку памясцілі пад 10-дзённы нагляд у ветэрынарную станцыю. 26 мая скончыўся тэрмін нагляду. Як сказала ўрач-эпідэміёлаг цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Алена Каравай**, шаленства пакуль не пацвердзілася. У панядзелак сабаку забілі і накіравалі на даследаванне ў Мінскую лабараторыю. Да канца тыдня стане вядома дакладна, ці быў сабака хворы на шаленства. Калі не, то школьнікаў здымуць з-пад назірання дактароў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ — АДКАЗВАЕМ

## Даследавацца можна

**Ці можна прайсці ўльтрагукавое даследаванне (УГД) гараджаніну ў раённай бальніцы?**

**Сяргей Аляшкевіч.**
**Маладзечна, вул.Валынца, 2.**

Галоўны доктар Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання **Іван Лужынскі** сказаў, што УГД зрабіць можна. Але толькі за грошы. Бо бясплатную медыцынскую дапамогу ў раённай бальніцы аказваюць па тэрытарыяльным прынцыпе. Таму гараджане-маладзечанцы лічацца іншагароднімі. Калі ёсць магчымасць – спецыяліст не ў адпачынку, спраўная апаратура, — даследуем і гараджан. З панядзелка доктар, якая робіць УГД, пайшла ў адпачынак. Запіс да яе ўзновіцца ў ліпені. Напрыклад, УГД на шчытападобную залозу каштуе менш за 2 тысячы рублёў, поўнае даследаванне брушной поласці – да 8 тысяч рублёў.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ СУСВЕТНАЯ ПАВУЦІНА

## Новы пункт

**МЯДЗЕЛ. На гэтым тыдні ў райцэнтры запрацаваў пункт калектыўнага доступу ў сетку Інтэрнэт.**

Месцяца ён на перагаворным пункце вузла электрасувязі. Дагэтуль у раёне была толькі адна Інтэрнэт-"кропка" — у Купе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Смаргонь паўвека таму

50 гадоў таму Смаргонь была невялічкім гарадком, які можна было прайсці з канца ў канец за некалькі дзесяткаў хвілін.

З прамысловых прадпрыемстваў памятаю толькі лесазавод, маслазавод і прамысловы камбінат, на якім выпускалі чарапіцу і ліцейныя вырабы.

У цэнтры была любімая намі брукаваная вулачка з некалькімі дамамі ў старажытным стылі. У адным з іх была невялічкая крама, дзе мы з маці стаялі доўгія гадзіны да яе адкрыцця, каб купіць хлеба. Нейкі франтавік з адной рукой старацца навесці парадак у вялізнай чарзе.

Побач была невялічкая, але вельмі прыгожая царква. Сёння тут знаходзіцца рэстаран і кінатэатр. Царкву і яе святара айца Уладзіміра Роўду памятаю і ніколі не забуду. Маці падводзіла мяне, каб пацалаваць крыжык і яго руку, схаваную ў вялікіх манжэтах царкоўнага адзення, а потым падымала, каб пацалаваць ногі распятага Ісуса Хрыста.

Маці, Антаніна Антонаўна Церабун, глыбока веруючая жанчына, не прымушала маліцца, а калі стаў піянерам, на гэтую тэму не было нават размовы.

У сям'і заўсёды адзначаліся рэлігійныя святы, таму вера ў сэрцы захавалася ў кожнага з нас. За прынесенае ў школу чырвонае яйцо можна было быць выключаным аж да самога дырэктара.

Памятаю, як на адной з дэманстрацый, якая праходзіла побач, на купале царквы замест крыжа мы ўбачылі чырвоны сцяг, які быў надарваны і аж сагнуўся ад моцнага ветру са снегам.

"Ці ж яму там месца?", — падумалася мне тады. З-за абразоў быў справакаваны канфлікт паміж вернікамі Залескага і Смаргонскага прыходаў, і нехта з высокіх чыноўнікаў даў загад разбурыць царкву.

За ноч яе не стала, бо дапамаглі салдаты і тэхніка. Як тады плакалі маці і жанчыны. Яны прыносілі на руіны святога месца абразок і маліліся. Страшна падумаць, што царква ўцалела ў вайну, а зруйнавалі ў мірны час.

Намі заняліся пэўныя органы. Яны прасілі супакоіць маці, узнагароджаную "Медалём мацярынства" за выгадаваных і выхаваных шасцёра дзяцей, і сказалі, каб нідзе больш не ставіла свае подпісы, бо будзе дрэнна.

Горш, як было, ніколі не будзе, і дай таму бог. Маці пехатой стала хадзіць у Святляны, і пра ўсё гэта забылася.

Абавязкова, калі дажыву, пайду ў новую царкву і пастаўлю свечку за той здзек, які перажылі мая маці і іншыя людзі.

Я вельмі ўдзячны лёсу, што выхоўваўся менавіта ў сваіх бацькоў, якія стараліся рабіць усё, каб мы сталі людзьмі.

Маці заўсёды ганарылася, што яе пяцёра сыноў адслужылі ў арміі. А Міхась з ёй на ўсё жыццё звязаў свой лёс у Варонежы. Няма больш з намі адзінай нашай сястрычкі Надзеі, і гэта нас вельмі засмучае.

**Юрый ЦЕРАБУН.**

■ ПРЭСА

## Журналісты просяць падтрымкі

Беларуская асацыяцыя журналістаў выступіла з заявай у сувязі з узмацненнем рэпрэсій незалежных сродкаў масавай інфармацыі і журналістаў.

У Беларусі на мяжу закрыцця пастаўлены пяць недзяржаўных выданняў – «Белорусская деловая газета», «БДГ. Для служебного пользования», «Народная воля», «Вечерний Столин», «Навінкі», – гаворыцца ў заяве. Рэдакцыям гэтых выданняў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь вынесла афіцыйныя папярэджанні, якія могуць стаць падставай для закрыцця газет.

За тры дні (20-22 траўня) міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны падпісаў пяць папярэджанняў за парушэнне патрабаванняў артыкула 5 закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", што больш, чым за ўвесь мінулы год. Згодна з беларускім заканадаўствам, пасля вынясення двух папярэджанняў па арт. 5 Закона аб друку на працягу года выданне можа быць закрытае ў судовым парадку.

У шэрагу выпадкаў ініцыятарам вынясення папярэджанняў незалежным выданням была пракуратура Рэспублікі Беларусь. Органы пракуратуры ўзбудзілі крымінальную справу супраць выдаўца рэгіянальных газет "Вечерний Столин" і "Провинциалка" Аляксандра Ігнацюка па арт. 369 КК "Зняважа прадстаўніка ўлады". Пракуратура занялася вышукваннем недахопаў у працы недзяржаўных газет, хаця сама так і не дамаглася прагрэсу ў пошуках зніклых, у тым ліку нашага калегі, сябра БАЖ Дзмітрыя Завадскага.

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў", – сцвярджаецца ў заяве,— выступае супраць грубых парушэнняў свабоды слова ў Беларусі; патрабуе ад Міністэрства інфармацыі і пракуратуры спыніць ажыццяўленне ўскоснай цэнзуры, якая вядзе да знішчэння незалежнай прэсы; звяртаецца да беларускай грамадскасці і міжнародных арганізацый з заклікам выказаць салідарнасць і аказаць падтрымку дэмакратычным журналістам і выданням Беларусі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

 



■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Крадуць электраэнергію

**ВІЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ. За 4,5 месяца 62 віляйчаніны і 21 мядзяльчанін выкралі ў дзяржавы электраэнергіі на 8,9 мільёна і 5,8 мільёна рублёў адпаведна.**

— Электраэнергію кралі ва ўсе часы. Нават калі кілават каштаваў капейкі, — гаворыць інспектар Вілейскага міжраённага аб'яднання "Энерганагляд" **Марыя Гатоўка.**

"Энерганагляд" сочыць за Вілейскім і Мядзельскім раёнамі. Кіраўнік групы інспекцыі **Ігар Місюль** заўважыў, што віляйчане крадуць больш за мядзяльчан. Ёсць і пастаянныя кліенты-парушальнікі.

Каб не плаціць за электраэнергію, што толькі не прыдумваюць спажыўцы. Напрыклад, парушаюць пломбы на лічыльніках у пад'ездах і ў дамах. Здымаюць пломбы на лічыльніках і перастройваюць іх так, як выгадна спажыўцу. Выціскаюць шкло і засоўваюць у лічыльнік фотаплёнку, каб прыпыніць яго. Ці насупраць дыска свідруюць адтуліну і ўстаўляюць іголку, дрот, што прыпыняе дыск. Каб асвятліць хлеў, гараж, абагрэць жыллё, самавольна падключаюцца да электраэнергіі без яе ўліку.



**Кіраўнік групы інспекцыі міжраённага аб'яднання «Энерганагляд» Ігар Місюль.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Віляйчанка з вуліцы Жоўткі ў сакавіку падключыла міма лічыльніка электракацёл, каб у доме не змерзла расада памідораў. Урон ад яе "абагрэву" склаў 4101 кВт на 1 мільён 590 тысяч 710 рублёў. Грошы не заплаціла да гэтай пары: няма чым. Напэўна, калі прадасць памідоры, разлічыцца. Суседка аматаркі памідораў парушыла схему ўліку электраэнергіі. Яна здагадалася падключыць нулявы праваднік ад батарэі цэнтральнага ацяплення, за што потым заплаціла 110 тысяч 466 рублёў.

Усіх парушальнікаў абавязкова штрафуюць. Кожныя тры месяцы брыгады "Энерганагляду" робяць рэйдавыя праверкі, падчас якіх знаходзяць 3-4 новых парушальнікаў. З пачатку года правялі 89 такіх рэйдаў і склалі 103 акты за крадзеж электраэнергіі на 30 мільёнаў 418 тысяч 333 рублі. Адны і тыя ж гаспадары з Карпавічаў і Рабуні, што на Вілейшчыне, па тры разы "траплялі".

Часта спажыўцы скардзяцца на няякасную падачу электраэнергіі. Але ў гэтым вінаватыя яны самі, а дакладней, сусед суседу замінае. Падключаюць апараты для распілоўкі дроў ці зваркі, што забаронена законам. Бо ад гэтага пагаршаецца якасць электраэнергіі і могуць зламацца халадзільнікі, тэлевізары.

Крайняя мера пакарання – адключэнне спажыўцоў ад сеткі. За тэхнічны стан электраабсталявання, якое пагражае жыццю, сёлета адключылі 9 віляйчан і 5 мядзяльчан. Тым, хто не выплачвае штрафы на працягу 10 дзён, таксама адключаюць электраэнергію. Такіх у 5 разоў больш.

Здараецца, самавольнае падключэнне заканчваецца трагічна. У Брусах, што на Мядзельшчыне, мыйшчык свінагадоўчага комплексу падключыў агрэгат для мыцця падлогі. Мужчына 1947 года нараджэння загінуў. Сёлета ў красавіку забіла токам 18-гадовага навучэнца Ільянскага раёна. Ён мяняў тэлевізійную антэну, якая дакранулася да правада высокага напружання лініі электраперадач.

**Ірына РАБУШКА.**

## Расклад руху электрацягнікоў па ст. Маладзечна з 25 мая 2003 года

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | без прып. | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| **4.32** | 6.16 | Сел., Крын., Прал. | **4.37** | 6.12 | |
| **5.21** | 7.10 | | **5.21** | 7.07 | |
| **5.48** | 7.40 | Сел., Крын. | **6.39** | 8.17 | |
| **6.30** | 8.18 | | **7.33** | 9.28 | |
| **7.26** | 9.19 | | **8.20** | 10.09 | |
| **8.50** | 10.50 | | **8.58** | 10.46 | |
| **9.43** | 11.35 | | **10.00** | 11.51 | |
| **10.58** | 12.49 | | **11.11** | 12.59 | |
| **12.07** | 13.48 | птн., вых., Рам., Хмел., Зял., Крыж. | **12.38** | 14.27 | |
| **12.46** | 14.36 | | **13.34** | 15.23 | |
| **13.52** | 15.42 | | **14.58** | 16.38 | птн., вых. |
| **15.08** | 16.59 | | **15.31** | 17.20 | |
| **15.51** | 17.42 | | **16.34** | 18.22 | |
| **16.53** | 18.44 | | **17.34** | 19.21 | |
| **17.46** | 19.34 | | **18.35** | 20.22 | |
| **18.37** | 20.25 | | **19.16** | 21.04 | |
| **19.52** | 21.39 | Леб. | **20.36** | 22.23 | |
| **20.37** | 22.35 | Леб. | **22.01** | 23.42/23.51 | |
| **22.24** | 23.57 | Сел., Рам., Прал., Хмел., Зял., Крыж., М.Мора, Леб. | **23.47** | 1.14 | |

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 25 мая 2003 г.

| | Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | дні курсір. | | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | дні курсір. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **8.42** | 10.28 | штодз. | | **5.25** | 7.12 | штодз. |
| | **13.09** | 14.54 | вых. | | **10.43** | 12.25 | штодз. |
| | **15.53** | 17.38 | штодз. | | **15.18** | 17.05 | вых. |
| | **18.03** | 19.52 | штодз. | | **17.55** | 19.38 | штодз. |
| | **20.43** | 22.32 | штодз. | | **20.09** | 21.50 | штодз. |

| | Маладзечна | Ліда | | | Ліда | Маладзечна | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Баг | **7.32** | 8.57 | суб. | | **3.52** | 7.00 | штодз. |
| | **8.35** | 11.42 | штодз. | Баг. | **10.15** | 11.39 | суб. |
| | **12.41** | 15.53 | вых. | | **9.09** | 12.18 | штодз. |
| Ба г. | **14.00** | 15.25 | па ўказ. | | **12.18** | 15.26 | вых. |
| Юр. | **16.07** | 18.01 | нядз. | Баг. | **15.55** | 17.22 | па ўказ. |
| | **17.51** | 20.56 | штодз. | | **16.19** | 19.27 | штодз. |
| | **20.32** | 23.42 | штодз. | Юр. | **18.58** | 21.04 | нядз. |

| | Маладзечна | Крулеўшчына | | | Крулеўшчына | Маладзечна | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Параф. | **7.20** | 9.20 | вых. | | **4.40** | 7.00 | штодз. |
| Пол. | **8.30** | 10.50 | штодз. Пол. 13.00 | Параф. | **9.38** | 11.36 | вых. |
| | **12.35** | 14.56 | вых. | | **15.14** | 17.38 | вых. |
| Глыб. | **20.36** | 22.57 | штодз. Глыб. | Пол. | **17.09** | 19.35 | штодз. Пол.14.42 |
| | | | | Пол. | **18.49** | 21.20 | пятн. Пол.16.47 |

■ 31 МАЯ – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БЕЗ ТЫТУНЮ

## Перш, чым закурыць, падумайце...

З кожным днём усё вастрэй паўстае праблема курэння. Кураць не толькі дарослыя, але і дзеці. У свеце прыкладна 1,1 мільярда людзей з'яўляюцца курыльшчыкамі. Чакаецца, што да 2025 года іх колькасць павялічыцца да 1,6 мільярда. Ніхто не хоча задумвацца, што ж іх чакае ў будучыні. Па падліках спецыялістаў, да 2030 года тытунь стане найбольшай прычынай смерці ва ўсім свеце, прыкладна 10 мільёнаў памерлых у год.

Тытунекурэнне адрозніваецца ад многіх іншых праблем аховы здароўя. Цыгарэты карыстаюцца попытам сярод спажыўцоў і фарміруюць частку сацыяльных звычак ва ўсім грамадстве. Яны з'яўляюцца таварам, якім шырока гандлююць і які прыносіць вялікі прыбытак.

Большасць людзей пачынае курыць у маладым узросце. Канешне, курыльшчыкі разумеюць, што сістэматычнае курэнне можа прывесці да розных захворванняў, але з'яўленне іх яны бачаць у аддаленай перспектыве, і рэальнай небяспекі не адчуваюць. "Хоць з кім, толькі не са мной" – вось формула, якая выцякае з вядомага выразу "Гэтага не можа быць таму, што гэтага не можа быць ніколі". Памылковая думка. Небяспечная.

Вынікі курэння для здароўя бываюць рознымі. Па-першае, курыльшчык хутка прывыкае да нікаціну. Уласцівасці нікаціну, якія выклікаюць наркатычную залежнасць, пераканаўча даказаныя, але часта недаацэньваюцца. Па-другое, хваробы, рызыка заўчаснай смерці выключна высокая.

Асабліва пакутуюць ад курэння жанчыны, бо на іх абвергліся тыпова мужчынскія хваробы. Але галоўнае тое, што курэнне згубна адбіваецца на патомстве. Ад таксічных рэчываў, што ўтрымліваюцца ў тытунёвым дыме, пакутуюць практычна ўсе дзетародныя органы: бясплоддзе сярод жанчын, якія кураць, сустракаецца ў 2 разы часцей, чым сярод тых, хто не курыць. Нядаўна быў выяўлены яшчэ адзін непрыемны факт: курэнне і гарманальныя супрацьзачаткавыя сродкі, аказваецца, несумяшчальныя. У жанчын-курыльшчыц, якія карыстаюцца падобнымі сродкамі, у 38 (!) разоў павялічваецца рызыка сардэчна-сасудзістых захворванняў.

Таксічнасць тытунёвага дыму ўзрастае ў шмат разоў у час цяжарнасці, асабліва ў першыя тры месяцы. Перш за ўсё пакутуе цэнтральная нервовая сістэма дзіцяці, бо яна закладваецца ў першыя дні пасля зачацця. Тытунёвыя таксіны з арганізма маці трапляюць ў крываноснае рэчышча плоду ўжо праз 5 секунд і наносяць удар па сардэчна-сасудзістай сістэме, а таксама аказваюць ўплыў на мозг, ныркі. Вынікі становяцца бачнымі як адразу пасля нараджэння, так і праз некалькі гадоў, часцей у школьныя гады, калі ўзрастае нагрузка на арганізм.

Самым страшным вынікам курэння для мужчын з'яўляецца імпатэнцыя. Большасць з іх і не здагадваецца аб магчымасці існавання такой сувязі.

Кураць звычайна тыя, якім не хапае ўпэўненасці. Пастарайцеся разабрацца ў сабе. Не варта пачынаць курыць, таму што так модна, таму што ўсе вакол вас кураць. Няхай прыкладам вашай індывідуальнасці і выдзяленнем з масы стане тое, што вы не курыце.

**Алена ГЛАЎНІЦКАЯ,**
**загадчыца аддзела грамадскага здароўя раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 22.05 руб. | 29.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2035,00 | **2039,00** |
| Еўра | 2383,80 | **2401,64** |
| Злоты | 544,41 | **551,42** |
| Літ | 690,47 | **695,68** |
| Расійскі рубель | 65,88 | **66,59** |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2025/2035 | **2030/2039** |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 21.05 | 28.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12200 | **12200** |
| Сасіскі, 1 кг | 4050 | **4300** |
| Селядзец, 1 кг | – | **2800** |
| Рыс, 1 кг | 800 | **780** |
| Грэчка, 1 кг | 1500 | **1450** |
| Цукар, 1 кг | 1240 | **1240** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | **900** |
| Алей, 1 л | 1750 | **1750** |
| Маянэз, 200 г | 470 | **450** |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | **2200** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 750 | **750** |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | **680** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1200 | **1100** |
| Капуста, 1 кг | 1100 | **980** |
| Морква, 1 кг | 1400 | **1250** |
| Лімоны, 1 кг | 2550 | **2600** |
| Апельсіны, 1 кг | 1760 | **1850** |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 650 | **600** |
| Смятана, 1 л | 2000 | **2000** |
| Масла, 1 кг | 4400 | **4400** |
| Тварог, 1 кг | 1700 | **1800** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | **1400** |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | **3000** |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | **1450** |



 

# дыялог бізнесменаў з уладай

## Міхаіл Еўдакімаў: прадпрымальнікам створаныя добрыя ўмовы для працы

Э. Баланчук спытаўся ў начальніка Маладзечанскай інспекцыі па падатках і зборах:

Ці збіраецеся вы панізіць стаўкі адзінага падатку і павышаючыя каэфіцыенты? Калі так, то калі? Калі не, то чаму? Якімі нарматыўнымі актамі кіруецеся?

Як вы будзеце кантраляваць выкананне дэкрэта прэзідэнта, калі на момант праверкі ў прадпрымальніка будзе больш за 3 наёмныя работнікі?

Пытанне ад вядучага "круглага стала" **Аляксандра Манцэвіча**: ці цяжка працаваць з маладзечанскімі прадпрымальнікамі ў параўнанні з прадпрымальнікамі іншых рэгіёнаў.

Спачатку хачу паведаміць наступнае: у горадзе найлепшыя ўмовы для развіцця прадпрымальніцкага асяроддзя. І прадпрымальнікі гэтым карыстаюцца. Больш у Мінскай вобласці прадпрымальнікаў зарэгістравана толькі ў Мінскім раёне. У Маладзечне зарэгістравана 3306 індывідуальных прадпрымальнікаў. З іх цяпер працуюць 2811. Каля 1900 прадпрымальнікаў плацяць адзіны падатак.

Яфім Ідэльчык правільна гаворыць, што мы не цэнім тое, што маем, пакуль гэта не згубім. Я хачу сказаць, што цяпер для работы прадпрымальнікаў створаныя спрыяльныя ўмовы. Сёння плацельшчыкам не патрэбныя касавы апарат, інкасацыя, іншыя дакументы. Калі наступны раз зменіцца заканадаўства, чаго некаторыя жадаюць, то дзе гарантыя, што прадпрымальнікі не будуць шкадаваць аб цяперашніх законах.



**Начальнік Маладзечанскай інспекцыі па падатках і зборах Міхаіл Еўдакімаў.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Другі год запар падатковыя стаўкі ў Маладзечне знаходзяцца на адным узроўні. Стаўкі падаткаў штогод зацвярджае абласны Савет дэпутатаў. Усе гарадскія і раённыя падатковыя інспекцыі падаюць звесткі ў аблсавет прапановы ставак: ніжнюю і верхнюю мяжу. Дэпутаты на сваёй сесіі збіраюцца і выносяць рашэнне. Звычайна, недзе пасярэдзіне паміж верхняй і ніжняй мяжой.

Прадпрымальнікі таксама могуць прыняць удзел у распрацоўцы рэкамендуемых ставак. У канцы года мы запрашаем вас прыйсці да нас з распрацаванымі прапановамі аб падатковых стаўках.

Яфім Ідэльчык: Так, хацелася б, каб размова з прадпрымальнікамі вялася мовай лічбаў, а не эмоцый. Эдуард Баланчук пытаўся, чаму гарвыканком не накіраваў пасля сустрэчы з міністрам па падатках і зборах свае прапановы па зніжэнні падаткаў? Шчыра кажучы, не памятаю падрабязнасцей той сустрэчы, бо з той пары прайшло каля двух гадоў. Але добра помню нашую апошнюю сустрэчу ў красавіку. Тады асабіста я сказаў, калі вы незадаволеныя памерам падаткаў, то да 18 красавіка прынясіце мне вашыя прапановы, абгрунтаваныя лічбамі. Да мяне паступіла толькі заява з рэчавага рынку. А там было больш эмоцый, чым лічбаў.

Але пасля апошняй сустрэчы гарвыканком напісаў ліст з просьбай павысіць павышаючы каэфіцыент на адзіны падатак для ўладальнікаў камп'ютэрных клубаў з 1,25, як хацелі папрасіць, да 1,15, і не прымяняць павышаючыя каэфіцыенты для прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынках, як меркавалася.

Яшчэ хачу сказаць вось аб чым. Эдвард Баланчук папракае мясцовую ўладу ў тым, што яна наносіць урон прадпрымальнікам. Напрыклад, прымушае прадпрымальнікаў прымаць пустую шклатару.

Праблема пустых шкляных бутэлек была актуальная і ў год выбараў прэзідэнта, і цяпер. Лічу, што рашэнне гарвыканкома справядлівае: калі прадпрымальнік прадае прадукцыю ў шкляных бутэльках, то ён павінны яе прымаць. Сапраўды, праз адзін кіёск можа праходзіць больш шклатары, чым у некаторых магазінах. А склады райспажыўтаварыства запоўненыя: тары прымаецца больш, чым выпускаецца. І яе няма куды дзець. У Расіі тара таннейшая, чым у нас. Каб было наадварот, то праблема з тарай вырашалася б проста: яе вывозілі б у Расію. А атрымліваецца наадварот.

Ніякага ціску на прадпрымальнікаў няма. Калі няма ў бізнесмена памяшкання для прыёму і захоўвання тары, то няхай заключае дагавор з уладальнікамі ліцэнзіі, тым жа райспажыўтаварыствам, і праблема для прыватніка знятая. Там пракантралююць і прымуць тару па ўсіх нормах. Яшчэ адно вырашэнне праблемы – пачакаць, калі тару зробяць незваротнай.

Міхаіл Еўдакімаў параіў бізнесменам з прапановамі па стаўках звяртацца ў канцы года. Па кантролі за колькасцю наёмных асоб Міхаіл Еўдакімаў сказаў, што 25 прадпрымальнікаў, згодна з дэкрэтам, падалі дакументы на афармленне статусу юрыдычных асоб. Мы ўлічваем і тых прадпрымальнікаў, якія да моманту ўваходу дэкрэта ў сілу мелі больш за 3 наёмныя асобы, але не сталі юрыдычнымі асобамі. Калі знойдзем парушэнні, то будзем караць з улікам санкцый, прадугледжаных законам і іншымі нарматыўнымі актамі.

На трэцяе пытанне Міхаіл Еўдакімаў адказаў: і так, і не. З маладзечанскімі прадпрымальнікамі працаваць добра, бо яны ведаюць законы, і размову з імі можна весці кампетэнтна, як спецыяліст са спецыялістам. Адначасова і дрэнна, бо калі падатковая інспекцыя дапускае агрэхі ў сваёй рабоце, то прадпрымальнікі, якія добра ведаюць свае правы, знаходзяць рычагі ўздзеяння на мясцовых падаткоўцаў: скардзяцца ў вышэйшыя інстанцыі і дабіваюцца праўды.

### Удзельнікі «круглага стала»:

**Яфім Ідэльчык**, першы намеснік старшыні гарвыканкома;

**Міхаіл Еўдакімаў**, начальнік інспекцыі па падатках і зборах Маладзечна;

**Віктар Марозаў**, начальнік Маладзечанскага ГРАУС;

**Дзіна Громава**, старшыня Маладзечанскага міжраённага камітэта Дзяржкантролю Мінскай вобласці;

**Валянцін Ліпніцкі**, намеснік галоўнага рэдактара "Маладзечанскай газеты";

**Кацярына Астапоўская**, прадпрымальнік, старшыня ГА «Маладзечанскі прадпрымальнік»;

**Тамара Багачова**, прадпрымальнік, старшыня прафсаюзнага аддзялення «Перспектыва» прадпрымальнікаў рынку «Кірмаш»;

**Мікалай Апяцёнак**, прадпрымальнік;

**Людміла Абрамовіч**, прадпрымальнік;

**Валянціна Навумава**, прадпрымальнік;

**Анатоль Кужоўнік**, прадпрымальнік;

**Яўген Матусевіч**, прадпрымальнік;

**Алег Багнюк**, прадпрымальнік;

**Эдвард Баланчук**, прадпрымальнік, старшыня Маладзечанскага аддзялення БГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт»;

**Алесь Капуцкі**, прадстаўнік Мінскай абласной арганізацыі ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна».

Вёў "круглы стол" **Аляксандр Манцэвіч**, галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты».

## Віктар Марозаў: на рынках павінны быць парадак

Прадпрымальнік Яўген Матусевіч задаў пытанне начальніку Маладзечанскага ГРАУС Віктару Марозаву: калі наводзяць парадак на гарадскіх рынках, асабліва на калгасным. Прадпрымальнікі церпяць страты з-за людзей, якія гандлююць нелегальна, за тэрыторыяй рынку.

Папрокі прадпрымальнікаў да міліцыі справядлівыя: ёсць пытанні па навядзенні парадку на рынках. І калі на рэчавым больш-менш спакойна, то на калгасным існуе многа праблем.



**Начальнік Маладзечанскага ГРАУС Віктар Марозаў.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Па-першае, гэта стыхійны рынак за тэрыторыяй калгаснага рынку. Як вы маглі заўважыць, міліцыя змагаецца з гэтым. Усё менш людзей, якія гандлююць рознымі жалязякамі. Будзем і далей сачыць за парадкам. Але на сваёй тэрыторыі парадак павінны наводзіць гаспадар. Мы ваюем не столькі з прадаўцамі, колькі з адміністрацыяй. У кіраўніцтве рынку вялікая кадравая цякучка. Толькі зацвердзім план па забеспячэнні бяспекі на рынку, мяняецца адзін з намеснікаў дырэктара рынку і ўсё пачынаецца зноў.

Рашэнне аб увядзенні даведкі аб тэхнічнай умацаванасці мы прынялі дзеля таго, каб застрахаваць менавіта райспажыўтаварыства, бо ад крадзяжоў больш за іншых церпіць менавіта іх маёмасць. Але гэтае правіла тычыцца ўсіх, і гэта правільна. Гэта дапаможа знізіць верагоднасць крадзяжоў, а значыць, выдаткі міліцыі на пошук і затрымку злачынцаў. Дадам яшчэ, што абследаванне гандлёвых пунктаў пры выдачы даведкі аб тэхнічнай умацаванасці для ўсіх бясплатнае. Тут нельга нас абвінавачваць у тым, што мы ўвялі дадатковую даведку для таго, каб зарабіць сабе грошы. Наконт агульнага ўзроўню злачыннасці ў горадзе скажу, што цяпер няма аб'ектыўных прычын для яго зніжэння. Кожны год з месцаў пазбаўлення волі прыязджае сюды каля 500 чалавек, якім звычайна цяжка ўладкавацца на працу. А яшчэ чакаецца чарговая амністыя.




**28 мая. За межамі тэрыторыі калгаснага рынку ў базарны дзень ідзе гандаль. Але меншымі, чым звычайна, тэмпамі.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Трэба часцей збірацца

Напрыканцы ўдзельнікі "круглага стала" задалі пытанне **Дзіне Громавай** наконт праверак фінансава-гаспадарчай дзейнасці прадпрымальнікаў.

Дзіна Громава запэўніла, што праверак будзе менш. Але заўважыла, што ніводная праверка прадпрымальніцкай справе не пашкодзіла. Прадпрымальнікі выносяць для сябе дадатковыя веды.

Прадпрымальнік **Людміла Абрамовіч** падзялілася сваёй праблемай. Пры прыёме ў прыватную цырульню на вучэбную практыку навучэнцаў з сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў па заканадаўству трэба афармляць як паўнацэнных наёмных спецыялістаў. Гэта фінансава нявыгадна цырульням, бо трэба час вопытных майстроў на падрыхтоўку малодых спецыялістаў ды яшчэ цырульня павінная плаціць падаткі каля 100 тысяч у месяц на аднаго практыканта. У іх цяпер адно выйсце – не браць да сябе на практыку малодых цырульнікаў.

Дзіна Громава заўважыла, што адказ прыватных цырульняў вучыць моладзь дорага абыдзецца дзяржаве, таму парэкамендавала прадпрымальніку звярнуцца ў Міністэрства па падатках і зборах з запытам аб прад'яўленні падатковых ільгот.

Яфім Ідэльчык адзначыў, што бізнесмены прапануюць слушныя парады, якія дапамагаюць вырашыць праблемы як гарадскіх уладаў, так і прадпрымальнікаў.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

# Адкуль пайшлі сучасныя назвы

**Як сведчаць гістарычныя крыніцы, сто гадоў назад у Маладзечне былі практычна 4 вуліцы, якія разыходзіліся ад галоўнай рынкавай плошчы каля царквы.**

Не цяжка прадугадаць і іх назвы, бо яны адпавядалі напрамкам, куды былі скіраваны: у бок Мінска – Мінская, Вільні – Віленская, Вілейкі – Вілейская, Гарадка – Гарадоцкая. Выключэнне складала пятая вуліца да чыгуначнага вакзала, якая атрымала чамусьці назву Шведскай. Мабыць, жыхары памяталі, што некалі тапталіся па маладзечанскай зямлі і шведы. Палітызацыя найменняў вуліц прыйшла пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.

## У гонар знакамітасцяў

На абсягах былога СССР лічылася нормай, каб у кожным горадзе была вуліца імя Пушкіна, Горкага і іншых знакамітасцяў.

Не мінула гэта кампанія і Маладзечна. Нічога абуральнага ў гэтым не бачу, вось толькі крыху прыкра, што доўгі час насіла імя Янкі Купалы, народнага паэта, ураджэнца Маладзечаншчыны, зусім малапрыкметная вулічка ў бок ад вуліцы Максіма Горкага. Толькі ўсенароднае і на дзяржаўным узроўні святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння паэта і адкрыццё яго мемарыяла ў Вязынцы падштурхнула ўлады даць імя Янкі Купалы вуліцы па напрамку старой дарогі на Мінск. Крыху больш пашанцавала ва ўвекавечанні памяці другому беларускаму песняру Якубу Коласу, імя вуліцы якога з цягам часу стала транспартнай артэрыяй у Залінейным раёне.

Добрая традыцыя прысвойваць вуліцам імёны заслужаных людзей, чый лёс быў звязаны з Маладзечнам. У горадзе ёсць вуліцы з імёнамі легендарнага барацьбіта за свабоду ў Заходняй Беларусі С.В.Прытыцкага, славутага кіраўніка БССР, Героя Савецкага Саюза з 1944 года П.М.Машэрава.

Адна з вуліц у Залінейным раёне стане насіць імя Шаранговіча – ураджэнца вёскі Качаны Вілейскага павета, актыўнага барацьбіта за вызваленне Беларусі ад буржуазнай Польшчы, у 1937-38 гадах — першага сакратара ЦК КПБ.

У 1934 годзе з Маладзечнам перасякліся жыццёвыя шляхі яшчэ аднаго ўдзельніка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, будучага беларускага савецкага паэта В.Таўлая. Ён быў арыштаваны па дарозе ў Мінск і нейкі час утрымліваўся ў следчых камерах польскай дэфензівы (службы бяспекі), якая месцілася ў трохпавярховым будынку сучаснага аўтавакзала.

У назве вуліцы ўшанавана імя ўраджэнца Маладзечна, удзельніка барацьбы за лепшае будучае беларусаў, камбрыга, падпольшчыка ў горадзе ў час нямецкай акупацыі ў 1918 годзе і потым першага старшыні Маладзечанскага валаснога выканкома І.А.Міхалёнка.

Ёсць у горадзе вуліца, якая носіць імя яшчэ аднаго маладзечанца, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, неаднаразовага за сваю дзейнасць вязня астрогаў падчас панавання буржуазнай Польшчы А.Р.Капуцкага. Назвы вуліц захоўваюць таксама



Гэтая царква за сто гадоў знешне амаль не змянілася. А плошча ў Маладзечне, якую ўпрыгожвае гэтая царква, мяняла сваю назву за гэты час 2 разы. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

імёны Ганаровых грамадзян горада Маладзечна, актыўных удзельнікаў Айчыннай вайны Д.С.Маўчанскага, Л.А.Вандыша, Героя Савецкага Саюза М.У.Ларына.

## Вяртанне да мінулага

Апошняя хваля з'яўлення новых назваў на вуліцах звязана з падзеямі пачатку 90-х гадоў – распадам СССР і крахам камуністычнай дыктатуры. Страцілі свае імёны плошча і праспект Леніна, вуліцы Маркса, Энгельса, Савецкая, Кірава, Калініна, Жданава і іншыя.

Разам з тым набыццё незалежнасці Беларусі і звязаны з гэтым уздым нацыянальнай самасвядомасці выклікалі з'яўленне на вулічных шыльдах шэрагу новых назваў і імён. Аднавіліся Віленская і Гарадоцкая вуліцы. Атрымала сваю гістарычную назву Замкавай былая вуліца М.Горкага.

У сярэдневечча гэта вуліца вяла ад драўлянага замка да гандлёвай плошчы. У канцы XVIII стагоддзя князь Ф.К.Агінскі перабудаваў замак у палац, які быў разбураны каля 1886 года. Цяпер ад яго засталіся толькі насыпныя валы (помнік археалогіі) за Ушой справа ад дарогі на Вілейку. Але ў горадзе добра ведаюць пра аднаго са славутых прадстаўнікоў гэтага княжаскага роду – кампазітара М.К.Агінскага, імем якога названы музычнае вучылішча і адна з вуліц.

Змяніла сваю назву і гандлёвая плошча (былая Свабоды) на плошчу Старое Места. Калі суаднесці яе з польскай, дзе слова miasto азначае горад, то новая назва плошчы, дзе яшчэ ў першапачатковым выглядзе захаваліся векавой даўніны будынкі, добра адпавядае закладзенаму ў ёй сэнсу. І калі нясвіжцы любяць паўтараць прымаўку, што ў Нясвіжы – як у Парыжы (вельмі балюча за пацярпелы ад надаўняга пажару радзівілаўскі замак), то маладзечанцы цяпер таксама могуць сказаць, што толькі Маладзечна і Варшава маюць плошчы Старое Места.

Трохі незвычайнай пакажацца і новая назва Вялікі Гасцінец. Калі некаму яна станецца не зусім зразумелай, то дастаткова хоць раз пачуць папулярную не толькі ў рэспубліцы песню на словы Ніла Гілевіча "А я лягу-прылягу...", і адразу блізкім стане сэнс гэтага этнаграфічнага паняцця. І хоць сучасны выгляд гасцінца зусім не ў горшы бок розніцца ад успетага паэтам старога брукаванага тракту, як галоўная магістраль, па якой з усіх бакоў едуць у горад шматлікія госці, ён зусім адпавядае сваёй новай назве.

Тым не менш многія з гараджан пакуль не столькі дасведчаныя ў гэтых пытаннях. Таму, мабыць, было б зусім не лішнім, каб на першых дамах такіх вуліц мацаваць мемарыяльныя дошкі з кароткай інфармацыяй аб тых асобах, у чый гонар яны названы. Тады, скажам, жыхары шматпавярховак у Зялёным гарадку маглі б не толькі самі даведацца, а і сказаць знаёмым, што жывуць па вуліцы Міхася Забэйды-Суміцкага – выдатнага беларускага опернага спевака еўрапейскага маштабу і выканаўцы славянскіх песень. Дарэчы, мы маглі б значна лепш ведаць гэтага самародка, выпускніка Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, які стажыраваўся ў міланскім "Ля скала", выступаў на сцэне Пражскага, Пазнаньскага і іншых оперных тэатраў, калі б падчас яго гастроляў у Мінску і Гродне ў 1963 годзе беларускія ўлады задаволілі яго просьбу аб вяртанні на радзіму. Устаноўка мемарыяльных дошак была б не такой ужо і дарагой справай. Тым больш, што такая практыка была ўжо на вуліцах Маркава, Галіцкага, Валынца, Прытыцкага. Была такая дошка і на вуліцы Маўчанскага, але з нейкай прычыны яе знялі.



Новая маладзечанская царква з'явілася ў часы беларускага суверэнітэту на вуліцы Францыска Скарыны, якая ў савецкі час называлася імя 60-годдзя Кастрычніка. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



Маладзечна. Помнік Міхалу Клеафасу Агінскаму стаіць каля музычнага вучылішча імя Агінскага. Ёсць у горадзе і вуліца Агінскага, але яна далёка не цэнтральная. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Перайменаваныя вуліцы

Як вядома, большасць новых назваў з'явілася ў выніку перайменавання вуліц. Нічога асуджальнага ў гэтым няма, хутчэй наадварот – віншую, калі гэта спрые аднаўленню гістарычнай справядлівасці, як сталася з вуліцамі Замкавай, Віленскай, Гарадоцкай і інш. Разам з тым застаюся прыхільнікам, каб новыя імёны прысвойваліся новым вуліцам. Ідэальны варыянт такога падыходу тая ж вуліца Маркава. Да таго ж і замены назваў не заўсёды бываюць адэкватнымі. Так, асабіста мне здаецца нейкай штучнай назва вуліцы Вольная. Тут, думаецца, прысутнічалі нейкія эмацыянальныя матывы ў піку таму, што вуліца насіла раней імя Дзяржынскага. Хаця маёнтак Ф.Э.Дзяржынскага знаходзіўся ў Івянецкім раёне былой Маладзечанскай вобласці. Да таго ж, вуліца атрымала назву Дзяржынскага не выпадкова: там пасля вайны пражывалі многія афіцэры ўпраўлення КДБ і ўнутраных спраў, а для іх, самі ведаеце, кім быў "жалезны Фелікс".

Горад імкліва будуецца і пашырае свае межы новымі кварталамі і вуліцамі. А значыць, спатрэбяцца імёны і назвы. У сувязі з гэтым хацелася, каб пры выбары іх адказныя за гэта асобы паступалі ўдумліва, як шахматысты, пралічвалі вынікі на некалькі крокаў уперад: улічвалі значнасць, магчымую перспектыву, годнасць вуліцы да прысваення той ці іншай назвы. Каб не здарылася сумна-забаўная гісторыя, як з адной знаёмай мне вуліцай у Гелянове. Там на адным і тым жа месцы роўна паўвека стаіць мой бацькоўскі дом, а якім толькі не быў адрас: вуліцы Калініна, Б.Хмяльніцкага, Будаўнікоў, Валынца. Назвы вуліц змяняліся, пакуль у гарвыканкоме не прыйшлі да высновы, што той, у метражы 400, кавалак вечна перакапанай цеплатрасамі зямлі, да таго ж схаваны ад людскога погляду высокай бетоннай агароджай аўтастаянкі мэблевай фабрыкі, наогул не можа быць ніякай вуліцай, а некалькі пабудаваных там дамоў аднеслі да Рабочых завулкаў.

Трэба яшчэ мець на ўвазе, што нават такія назвы вуліц, як 60-годдзя Кастрыніка, з часам становяцца анахранізмам.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# маладзечанскіх вуліц




**Мемарыяльная дошка на будынку друкарні па вуліцы Прытыцкага.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



**Гэты будынак даў назву Рэвалюцыйнай вуліцы (цяпер – вуліца Прытыцкага). Тут у 1917/18 гадах размяшчаўся Маладзечанскі рэвалюцыйны камітэт.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

# Назвы савецкага часу

З надыходам часоў СССР Рынкавая плошча стала плошчай Свабоды, а Віленская вуліца – Савецкай. І не без падстаў, бо ў двухпавярховым будынку на плошчы з 6 снежня 1917 года па 20 лютага 1918 года была штаб-кватэра Маладзечанскага Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Дарэчы, Савецкая вуліца была першай заасфальтаванай у 1951 годзе вуліцай у горадзе. З'явілася і вуліца Рэвалюцыйная — ад будынка каля вакзала (сучаснай друкарні), дзе з лістапада 1917 па люты 1918 года дзейнічаў армейскі камітэт салдацкіх дэпутатаў Заходняга фронту.

Трэба думаць, што прыйшоўшыя з Саветамі назвы не маглі быць у пашане ў час дваццацігадовага панавання буржуазнай Польшчы. Іх аднаўленне і пашырэнне на вуліцах горада прыйшло з уз'яднаннем Заходняй Беларусі з БССР у 1939 годзе. У гонар гэтай даты з'явілася вуліца 17 Верасня каля сучаснай СШ№4. Галоўная вуліца ў былым польскім ваенным гарадку Гелянова атрымала назву імя Чкалава. Імёны ваенных савецкіх камандзіраў Шчорса, Чапаева былі прысвоены вуліцам барачнага пасёлка ў Зялёным гарадку.

Свой след у назвах вуліц пакінулі і іншыя важныя для былога СССР падзеі. Так, святкаванню ў 1954 годзе 300-годдзя ўз'яднання Украіны з Расіяй абавязана сваім з'яўленнем назва вуліцы імя Багдана Хмяльніцкага. З нагоды гэтага юбілею ў Беларусі была наладжана шматдзённая дэкада ўкраінскай культуры, у рамках якой вядомыя ўкраінскія мастацкія калектывы наведалі і Маладзечна. Менавіта тады аўтар гэтых радкоў меў магчымасць упершыню са сцэны гарадскога Дома культуры паслухаць оперу "Наталка-палтаўка" і на ўсё жыццё палюбіць забаўную аперэту "Вяселле ў Малінаўцы". Пасля запуску на арбіту Ю.А.Гагарына ў Маладзечне, як і па ўсёй краіне, з'явілася вуліца Касманаўтаў. У гонар чарговага юбілею Савецкай улады ў 1977 годзе адна з новых вуліц атрымала імя 60-годдзя Кастрычніка.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# След Вялікай Айчыннай вайны

Вызваленне ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прыйшло ў горад 5 ліпеня 1944 года з боку Вілейкі. Яго прынеслі чырвонаармейскія падраздзяленні 3-га Беларускага фронту пад камандаваннем генерала арміі І.Д.Чарняхоўскага. Таму натуральна, што яго імя атрымала адна з першых на шляху наступлення войскаў вуліц.

Вуліца Чарняхоўскага ў 50-60 гады ў шафёрскім асяроддзі мела яшчэ неафіцыйную назву "чорнага праспекта". І не столькі з-за неўпарадкаванасці на той час, а таму, што дазваляла тым аўтакіроўцам, якія добра пасядзелі ўвечары за чаркай, ці тым, якія падрадзіліся на "левы" рэйс, праехаць на Вілейку ў абмін галоўнай дарогі праз плошчу Свабоды, дзе рызыка сустрэчы з непажаданым аўтаінспектарам была значна большай. А маладзечанская аўтаінспекцыя ў тыя часы славілася сваёй прыдзірлівасцю і бязлітаснасцю. Нездарма была прымаўка: праедзеш Маладзечна – праедзеш далей увесь Савецкі Саюз. Асабліва дапякала яна вадзіцелям грузавікоў з Прыбалтыкі, што праязджалі транзітам. Хадзіла нават легенда (недалёкая, магчыма, ад праўды), як аднойчы літоўскія шафёры з дапамогай кампрэсара правучылі самага дасціпнага і непадкупнага аўтаінспектара Г. (былі такі маёр).

Зусім натуральным было з'яўленне ў горадзе вуліцы імя Гастэлы ў памяць аб геройскім подзвігу гэтага савецкага лётчыка 26 чэрвеня 1941 года паблізу ад Маладзечна. Крыху пазней, побач з вышэйназванай вуліцай, каля музычнага вучылішча адна з вуліц атрымала назву імя Тамілiна – першага сакратара Маладзечанскага райкома КПБ, які загінуў на пасту ў першыя дні вайны. У 1965 годзе ў назве вуліцы, спачатку ў Гелянове, потым – у цэнтры горада, будзе ўвекавечана імя Героя Савецкага Саюза, былога камандзіра партызанскай брыгады "За Савецкую Беларусь" А.І. Валынца. У сувязі са святкаваннем 30-годдзя вызвалення Маладзечна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вуліца каля гарадзела міліцыі атрымала імя Галіцкага. Камандуючы 11-й гвардзейскай арміяй генерал-палкоўнік К.М.Галіцкі значыўся другім сярод 17 военачальнікаў, асабіста адзначаных у вядомым Загадзе Вярхоўнага Галоўнакамандуючага І.В.Сталіна 5 ліпеня 1944 года за вызваленне Маладзечна.




**На доме №11 па вуліцы Валынца ўстанавілі мемарыяльную дошку, якой ушанавалі памяць Героя Савецкага Саюза. На жаль, падобных дошак, якія б расказвалі аб людзях, чыё імя носяць гарадскія вуліцы, не многа ў Маладзечне.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.




**Генерал-палкоўнік Кузьма Галіцкі ў гады вайны камандаваў 11-й гвардзейскай арміяй, якая вызваліла Маладзечна. Вуліца яго імя ў большасці маладзечанцаў асацыіруецца з будынкам міліцыі, які там знаходзіцца.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## Гістарычная спадчына

Прыемным сведчаннем большай цікавасці да гістарычнай спадчыны стала з'яўленне прывакзальнай вуліцы пад назвай Лібава-Роменская.

Менавіта пракладцы Лібава-Роменскай чыгункі, якая звязала беларускія губерні з партамі Балтыйскага мора і Украінай, першы цягнік па якой ў 1873 годзе прыйшоў у горад, Маладзечна вельмі абавязана сваім далейшым развіццём. Поўнасцю стала адпавядаць свайму мінуламу найменню вуліца Бухаўшчына – ад вёскі з такой назвай, што даўно злілася з горадам.

Навіной стала і вуліца пад назвай Грамадоўская. Трэба думаць, што яна ў памяць аб Беларускай сацыялістычнай грамадзе. Удзельнікі гэтай, створанай ў 1902 годзе на базе культурна-асветніцкіх гурткоў моладзі Вільні, Гродна, Мінска, патрыятычнай арганізацыі ва ўмовах абсалютнага царскага самаўладдзя паставілі перад сабой смелую мэту змагацца за здабыццё Беларуссю сваёй самастойнасці і дзяржаўнасці. І хоць першы з'езд БСГ у 1903 годзе адбыўся ў Вільні, там і ў далейшым месціўся яе штаб, Маладзечна таксама мае права на вуліцу з такой назвай. Адным з кіраўнікоў БСГ, а потым і членам рады абвешчанай у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі быў ураджэнец в.Максімаўка Вілейскага павета, выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі С.Рак-Міхайлоўскі. Неаднаразова бываў у Маладзечне, выступаў на настаўніцкім з'ездзе і яшчэ адзін актыўны дзеяч грамадоўскага руху, у будучым – акадэмік АН БССР Б.Тарашкевіч (яго імя таксама носіць адна з вуліц).

На карце горада з'явіліся вуліцы Ігната Буйніцкага ў гонар скончыўшага свой жыццёвы і творчы шлях у Маладзечне ў 1917 годзе беларускага акцёра і рэжысёра, стваральніка нацыянальнага прафесійнага тэатра і аднаго з ініцыятараў стварэння Першага таварыства беларускай драмы і камедыі; Міхася Чарота – выпускніка Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, удзельніка падпольнага руху ў час акупацыі Беларусі буржуазнай Польшчай, пісьменніка, ініцыятара стварэння і кіраўніка першай у рэспубліцы літаратурнай арганізацыі "Маладняк"; Язэпа Драздовіча – беларускага графіка і жывапісца, збіральніка народнай песні і лексікі народнай мовы; Антона Ясінскага – акадэміка АН БССР, гісторыка-славіста, даследчыка першапачатковага насельніцтва Беларусі. Калі да гэтага пераліку дадаць вуліцы імя сусветна вядомага гуманіста эпохі Адраджэння і першадрукара ўсходніх славян Ф.Скарыны, беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата К.Каліноўскага, паэта-дэмакрата, адкрыта выступіўшага ва ўсю моц свайго таленту у абарону беларускай мовы Ф.Багушэвіча, выдатнага паэта-лірыка М.Багдановіча, то з задавальненнем прыходзіш да высновы, што тыя людзі, якія ўносілі кіраўніцтву горада адпаведныя прапановы аб назвах вуліц, добра ведалі нашу гісторыка-культурную спадчыну.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Як змагаецеся з лянотай?



**Іван Сяргей, рабочы ЗПМ:**

— Ніяк. Я не гультай. Няма часу ленавацца: заўсёды ў працы. Стамляюся рэдка. Тады еду на прыроду. Увогуле, я часта выязджаю. Як аматар-астраном, люблю назіраць за зоркамі. Мяркую, што з лянотай варта змагацца. У гэтым можа дапамагчы хобі.



**Алена Макарэвіч, настаўніца гімназіі:**

— Стараюся выканаць справу больш лёгкім спосабам. Калі лянуюся гатаваць, вару сасіскі з макаронамі. Бывае, лянота дапамагае чалавеку: да яго не прыстаюць, бо ведаюць, што лянівы.



**Таццяна Івашанка, прадавец:**

— Калі вельмі стамлюся ад фізічнай працы, то чытаю кнігу. Лічу, што лянота нядрэнная якасць чалавека. Мне яна дапамагае пашыраць кругагляд, бо магу чытаць цэлую ноч. Занадта ляніваму чалавеку трэба ўсё ж такі змагацца з гультайствам.



**Уладзімір Архіпкін, прадпрымальнік:**

— Няма часу з ёй змагацца. Я – працаўнік, усе мае блізкія так кажуць. Лянота – гэта дрэнная якасць. Варта працаваць дзень і ноч.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ПАРТРЭТ

# Прыліп да «Скотча»

**МАЛАДЗЕЧНА. Ёсць меркаванне, што ў вячэрняй школе вучацца самыя гультаяватыя вучні. І ўсё ж такі выключэнне ёсць.**

11-класніка **Дзіму Папова** ведае ўся "вячорка". Пасля яе заканчэння ён хоча вучыцца далей. І марыць стаць майстрам і хадзіць з папачкай у руках. Каб работа не перашкаджала жыццю і заставаўся час на сябе і дом. Другі шлях да сябе: дзі-джэй радыёстанцыі "Юнацтва" ці на мінскім радыё. Ужо прыдумаў назву сваёй перадачы – "Музыка з прывітаннем".

Нядрэннае выйсце для былога вучня мастацкага класа СШ №4. Раней ён маляваў звычайныя пейзажы. Цяпер на паперы самі сабой атрымліваюцца вечар, захад сонца, рэдкія пароды дрэў, расліны. Партрэт асвойвае. Толькі цяжка ўгаварыць чалавека, каб пасядзеў гадзіну-другую і папазіраваў. У музычнай школе Дзіма навучыўся іграць на баяне і гітары. Баян – амаль адзінае, на што ў хлопца нападала лянота.

— Мяне прымушалі на ім вучыцца іграць. Таму не бяру ў рукі з прынцыпу, — гаворыць Дзіма.

А вось гітару выбраў сам і прыліп да яе. На ёй сачыняць музыку лягчэй. Ён піша ў стылі рок. Ёсць песня пра каханне Рамэо і Джульеты, ёсць пра наркамана. Разам са сваімі сябрамі Дзіма займаецца музыкай у падвале. Іх музычная група "Скотч" удзельнічала ў фестывалі "Рок-Немаўля-99". «Гастралявалі» ў мінскіх пераходах. Людзі, якія пачуюць музыку, плачуць і смяюцца, слухаюць і праходзяць міма. Дзіма расказвае, што там можна шмат зарабіць, калі добра іграць. Паклалі вязаную шапку – за вечар 250 тысяч. Частку патрацілі на МакДональдс, другую – на прывакзальную гасцініцу: вельмі стаміліся і хацелася спаць.



11-класнік Маладзечанскай вячэрняй школы Дзіма Папоў. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Да напружанай працы Дзіме не прывыкаць. У 7 класе ён перайшоў у ПТВ-135 і пачаў авалодваць прафесіяй электрыка. Калі зусім не было сіл iсці на заняткі, "забіваў" сабе даведку. Ён не ленаваўся моцна-моцна націскаць на пяты, каб у яго паднялася тэмпература. Бывала, да 38 градусаў "дацiскаў". Гаворыць, што так ён змагаўся з выкладчыкамі, якія ўкладалі ў галаву будучага электрыка што-небудзь накшталт літаратуры. Праз два гады Дзіма стаў электрыкам 1-га разраду. Потым вучыўся на муляра.

Здаецца, усё як мае быць: чалавек шукае сябе. Дзе ляното пераможа, дзе яна яго. Толькі дзяцінства сваё Дзіма ўжо ніяк не зменіць. Але ён упэўнены, што сваіх дзяцей будзе выхоўваць інакш. І слова "прыдурак", якое ён ведае з маленства, яго сыны і дочкі не пачуюць ніколі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ПСІХАЛОГІЯ

## Права на ляноту

**МАЛАДЗЕЧНА. Па словах псіхолага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей Анжэлы Дзяркач, ні ў водным падручніку ці кнізе па псіхалогіі няма асобнага раздзелу ці параграфа пра ляноту. Між іншым, гультайства моцна прычапілася да чалавека.**

**— Цікава даведацца ад псіхолага пра ляноту.**

— Гэта паводзіны чалавека ў той ці іншай жыццёвай сітуацыі. Лянота нясе ў сабе як адмоўнае, так і станоўчае. Адмоўнае, канешне ж, зразумела. Калі чалавек лянуецца, то ён расслабляецца – значыць, адпачывае. У гэтым станоўчая якасць ляноты. Ленавацца, вядома, у разумных межах, варта не радзей за 2 разы на тыдзень. Пры напружанай разумовай працы добра паленавацца 2-3 хвіліны кожную гадзіну. Самы просты спосаб – прынесці сабе задавальненне. Можна на 10-15 хвілін сесці ў крэсла, абаперціся на яго спінку, расслабіць рукі, з ног зняць абутак. Калі чалавек задрамаў на рабочым месцы, лепш яго не чапаць.

**— Чаму людзі лянуюцца?**

— Па-першае, гультайства выпрацоўваецца з дзяцінства. Гэта рэакцыя на выхаванне бацькоў. Ніколі не трэба гаварыць маці ці тату свайго дзіцяці, што я сам ці сама зраблю. Па-другое, гэта ахоўная рэакцыя арганізма. Яна ўзнікае ад фізічнай разумовай стомленасці. Калі чалавек гаворыць: "Мне пара ў адпачынак". Гэта варта зрабіць тут жа.

**— Хто больш лянівы – мужчына ці жанчына? Ці ёсць карысць ад ляноты?**

— Гультайнічаць умеюць усе. Толькі мужчына больш працуе на рабоце, таму дома ён больш лянуецца. Яна ў сваю чаргу на ўсе 200% адпрацоўвае дома. Таму больш лянуецца на рабоце.

Калі людзі не ўмеюць ленавацца, яны скарачаюць сабе жыццё. Канешне, калі ніхто ад яе не пакутуе.

**— Ці можна дазваляць ленавацца дзецям?**

— Лянота – гэта трывожны сігнал. Хоць дзеці не сапсаваныя грамадствам і цалкам не ведаюць, што такое лянота. Але і яны знаходзяць спосаб пагультайнічаць. Гавораць: "Мне лянота надзявацца". Дзіця гультайнічае, калі яму няма чым заняцца. Такое адбываецца з-за таго, што жыццёвая энергія хлопчыка ці дзяўчынкі не расходуецца.

Дзеці гультайнічаюць і калі імі авалодвае нудота. Трэба выявіць прычыну гэтай нуды. Яе можа выклікаць недахоп уражванняў, якія дзіця атрымлівае ад свету. Дарэчы, надвор'е ўплывае на дзяцей не так, як на дарослых. Наадварот, дождж узрадуе.

**— Жыццё гультаям усміхаецца?**

— На думку гультаёў – так. Часта ў іх адрас можна пачуць: нічога не робіць, а ўсё мае. Як правіла, гэта гаворыць тыя, хто не ўмее расслабляцца. Для каго жыццё – гэта работа. І ўсё ж такі адзін дзень на тыдзень мае сэнс пусціць на самацёк.

**Ірына РАБУШКА.**

■ НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

## Гультаёва доля

**ВАЛОЖЫН. Рыгор быў відным на ўсю вёску дзецюком.**

Ды і працаваць ён умеў. Многія дзяўчаты на яго заглядаліся. Рыгор жа закахаўся ў хударлявую чарнявую Ліду. Неўзабаве справілі вяселле. Маладым у спадчыну дасталася невялікая, далёка не новая хата. Але ўсё ж асобнае жытло. Ліда, як ляльку, прыбрала сваю хатку. А Рыгор нічога не хацеў рабіць. Тут яшчэ злыя языкі зрабілі сваю справу. Шапталіся, што са сваёй прыгажосцю Рыгор мог бы жыць у харомах, каб ажаніўся з багатай Кацяй. А так жыве ў нейкай халупе. Зусім заленаваўся Рыгор, на працы таксама лайдачыў, прагульваў. Думаў, навошта мне такому прыгожаму ў брудзе калупацца. Цяжка было Лідзе, трэба было ўсюды паспець. І дома, і на працы. Яна працавала прадаўцом. Рыгор ужо нават ганарыўся сваёй лянотай. Ніякія ўгаворы на яго не дзейнічалі. І хутка яго празвалі Гультаём, потым нават забылася яго імя. Гультай ды Гультай. Асабліва было крыўдна Лідзе, бо яе таксама пачалі зваць Гультаёва Ліда або і проста так: "Вунь, Гультаіха пайшла". Колькі слёз Ліда праліла ў адзіноце, але яна спадзявалася на лепшае.

Аднойчы ўлетку Ліда з Гультаём сядзелі каля сваёй хаты. Навокал раслі прыгожыя вяргіні, цвілі астры, якія пасадзіла руплівая Ліда. Сярод кветак іх хатка здавалася асаблiва сумнай і нейкай зморшчанай. Ліда глядзела ў блакітнае неба, і невясёлыя думкі авалодалі ёй. Раптам Рыгор спытаў: "Як назавём?" — І паглядзеў на яе даволі ўжо вялікі жывот. Ліда задыхнулася ад крыўды і болю і, гледзячы яму ў вочы, жорстка адказала: "А тут як не назавём, усё роўна будуць клікаць...". І яна бязгучна заплакала сэрцам. Калі Гультай глянуў на сваю жонку, нават у яго сціснула грудзі. Толькі цяпер ён пачаў разумець, якую долю ён рыхтуе для свайго дзіцяці.

... З той пары прайшло шмат гадоў. Мае цётка Ліда і дзядзька Рыгор жывуць добра. У іх прыгожы і ўтульны дом. Яны выгадавалі двух добрых сыноў. Калі трэба, бацька дае сынам слушныя парады. Больш за ўсё дзядзька Рыгор баіцца, каб яго любы ўнучак Рыгорка не даведаўся, што некалі яго дзед быў гультаём.

**Паліна ПРОЧКА.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

*Усялякая работа цяжкая да таго часу, пакуль яе не палюбіш, а потым – яна ўзбуджае і становіцца лягчэй.

*Адпачынак – гэта перамена заняткаў.

*Адна з самых дзіўных памылак – памылка ў тым, што шчасце чалавека ў тым, каб нічога не рабіць.

*Не магу стаяць, калі іншыя працуюць.

Пайду паляжу.

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# Шчаслівая канцоўка

**25 мая. 300 гледачоў. Суддзя Місючэнка.**

Забудова – Асіповічы 2:1 (0:1)

Галы: Вышынскі (80), Савіцкі (91+); (41)

Склад: 1.Кіркіж – 4.Пятроўскі, 2.Гружэўскі, 5.Гулевіч (17.Савіцкі, 46), 3.Івашкевіч (12.Невядомскі, 65) – 7.Абановіч (14.Шамшорык, 46), 10.Вышынскі, 9.Смірноў (15.Татун, 46), 8.Антановіч – 6.Байлукоў (13.Грыхуцік, 60), 11.Янель (18.Казяк, 71)

Сустрэча была насычанай на падзеі. Напрыканцы яе гаспадарам усміхнулася Фартуна, аддаўшы даўгі за мінулы дамашні матч з "Сожам".

Да перапынку госці практычна не мелі галявых момантаў, аднак забілі гол. Мяч удала прыляцеў на нагу іх паўабаронцы, які прабіў метраў з 35. Прадмет гульні стукнуўся ў зямлю перад **Кіркіжам**, што вельмі небяспечна, бо перад варотамі на футбольным полі заўсёды шмат няроўнасцяў. Здарыўся непрадбачаны адскок і зараз, Кіркіж паспеў падставіць рукі пад мяч, але госці спрацавалі на дабіванні (0:1).

Чысціцы ў першым тайме мелі тры выдатныя моманты. **Янель**, выйшаўшы на ўдарную пазіцыю перад штрафной, прабіў крыху міма. Пасля розыгрышу стандартнага становішча мяч прыляцеў да **Гулевіча** на лінію варатарскай, але ён прабіў у перакладзіну. **Антановіч** хуткім дрыблінгам прайшоў трох ці чатырох абаронцаў, а вось ударыў прама ў рукі галкіперу.

Зробленыя ў перапынку замены ўзмацнілі гульню "Забудовы". Каманда хутка стварыла яшчэ два моманты, але варатар асіпаўчан парыраваў удар Янеля са штрафнога ў "дзевятку" і ліквідаваў выхад **Байлукова** сам-насам. Чысціцы пайшлі ў атаку вялікімі сіламі, аднак моманты сталі ўзнікаць ля іх варот. Разоў пяць госці небяспечна контраатакавалі, аднойчы нават не трапілі ў пустыя вароты з 10 метраў. Потым, відаць, на іх дзеяннях пры спакотным надвор'і адбілася стомленасць, тады як трэнерскі штаб "Забудовы" меў магчымасць рабіць раўнацэнныя замены.

Пасля вуглавога справа ў выкананні **Вышынскага** з мячом ля левай броўкі сустрэўся **Шамшорык** і адправіў мяч у цэнтр перад штрафной. Там **Невядомскі** заўважыў свабоднага Вышынскага на правым куце. Дзмітрый тэхнічна прыняў мяч на грудзі, скінуў сабе пад удар і моцна стрэліў верхам у напрамку блізкай штангі (1:1). Партнёры кінулі ў контратаку **Грыхуціка**, якога збіў абаронца. Вышынскі са штрафнога трапіў у сценку, аднак мяч адляцеў да **Савіцкага**, які без мітусні забіў пераможны гол ужо ў дададзеныя арбітрам дзве хвіліны (2:1). Гэта яго трэці сёлетні гол, а абодва папярэднія забіў на 88-ай хвіліне, прычым у матчы з "Сожам" выратаваў камандзе ачко.

Кінулася ў вочы, што ў чысціцаў пакуль не наладжана гульня ў сярэдзіне поля, наогул гульня ў пас, але, думаецца, гэта часовая праблема: футбалістам трэба проста "згуляцца". Затое выкарыстанне стандартных становішчаў цалкам адпавядае сучасным патрабаванням. Кожны штрафны ці вуглавы нёс пагрозу. Янель, Вышынскі, Антановіч выконвалі іх вельмі небяспечна. А яшчэ ж могуць паказаць сваё ўменне Гулевіч і **Казяк**.




Трэнер "Забудовы" Канстанцін Харламаў вывеў сваю каманду на 4-е месца ў чэмпіянаце другой лігі. Яго падапечныя адзначылі 50-годдзе свайго трэнера дзвюма перамогамі ў апошніх двух турах. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

| | |
|---|---|
| 1. Баранавічы | 15 |
| 2. Верас | 12 |
| 3. РВАР (-1) | 10 |
| **4. Забудова** | **10** |
| 5. Гомель-2 | 8 |
| 6. Змена (-1) | 7 |
| 7. Спартак-ВАР | 7 |
| 8. Асіповічы | 7 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ГАРАДКІ

**З 21 па 25 мая ў Кіеве прайшоў трэці этап Кубка Еўропы, прысвечаны сьвяткаванню Дня горада. З Беларусі ездзілі чатыры маладзечанцы пад эгідай зборнай Мінскай вобласці.**

Асабісты залік: 1. Духанін (Расія) – 109 бітаў. 2. Разлуцкі (Украіна) – 115. 3. Бабіч (Украіна) – 119. 5. Шайко – 123. 7. Данілаў – 124. 10. Філістовіч – 125. 12. Яршэвіч – 126.

Сабраліся 8 каманд. У групе нашы саступілі прадстаўнікам Краснадарскага краю з Поўдня Расіі 1:2, перамаглі чарапаўчан з Паўднёвага Захаду Расіі 2:1 і Украіну-3 2:0. У паўфінале былі мацней за Украіну-2 па булітах пасля нічыёй. У фінале зноў прайгралі краснадарцам – 0:3.

■ ІНВАСПОРТ

**На міжнародны турнір па міні-футболу ў Санкт-Пецярбург, прысвечаны 300-годдзю горада, ездзіла зборная Беларусі.**

Перамагла там зборныя Кіпра 12:1, Расіі 5:2, Украіны 3:0 і ў фінале зноў украінцаў 5:1. Лепшым гульцом турніру быў прызнаны маладзечанец **Мікалай Татун**. Ён забіў 9 галоў (паслядоўна 3, 1, 2, 3). Валожынец **Андрэй Станкевіч** двойчы вызначыўся ў фінале, так што ў гэтым рашаючым матчы за беларусаў забівалі толькі прадстаўнікі рэгіёну. Маладзечанец **Аляксей Філіпаў** забіў 2 галы кіпрыётам.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Няўдалы юбілейны матч

28 мая. 1000 гледачоў. Суддзя Пятровіч.

Маладзечна-2000 – Шахцёр (Салігорск) 0:3 (0:2).

Галы: Нікіфарэнка (27), Слесарчук (35, 66).

Склад: 1.Сцепановіч – 2.Маляўка, 3.Косак, 5.Сысой – 4.Дрозд – 8.Сідарэнка (15.Крывіцкі, 54), 7.Якубоўскі (13.Веташкін, 60), 9.Кабельскі, 6.Пазняк – 10.Альхавік, 11.Кухлей (17.Макрыцкі, 34).

Усе тры галы госці правялі ўдарамі галавой з лініі варатарскай: відавочныя праблемы ў Сцепановіча ў гульні на выхадах. Дзеля справядлівасці зазначым, што ў прапушчаных галах ёсць віна абаронцаў, якія саступілі барацьбу форвардам саперніка, і паўабаронцаў, якія дазвалялі выконваць нацэленыя падачы з флангаў. А Віталь, дарэчы, некалькі разоў выратаваў каманду пасля памылак партнёраў. Нічым сябе не праявіла наша нападзенне: сапраўдных галявых момантаў проста не было.

Вось так прайшоў юбілейны трохсоты матч "Маладзечна-2000" у вышэйшай лізе чэмпіянату краіны. Пасля яго ад зоны "вылету" каманду аддзяляе толькі адно ачко.



Абаронца "Маладзечна" Сяргей Дрозд у апошнім матчы персанальна трымаў лідэра "Шахцёра" Цімафея Калачова, які дзейнічаў па ўсёй шырыні атакі. Натуральна, без хібаў у Сяргея не абышлося, аднак гол забіць свайму падапечнаму ён не даў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

| | |
|---|---|
| 1.Тарпеда (Ж) | 14 |
| 2.Гомель | 14 |
| 3.Тарпеда-СКА | 14 |
| 4.Шахцёр | 13 |
| 5.БАТЭ (+1) | 10 |
| 6.Дынама (Б) | 9 |
| 7.Белшына | 8 |
| 8.Нафтан | 8 |
| 9.Дынама (М) | 7 |
| 10.Дарыда | 7 |
| 11.Нёман | 6 |
| 12.Днепр-Трансмаш | 6 |
| 13.Лакаматыў (М) | 5 |
| 14.Маладзечна-2000 (+1) | 5 |
| 15.Славія | 4 |
| 16.Зорка-ВА-БДУ | 2 |

Бамбардзір: Ю. Мархель (жодзінскае "Тарпеда") – 8.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Страцілі важныя ачкі

25 мая. 1100 гледачоў. Суддзя Архіпаў.

Лакаматыў (Віцебск) – Смаргонь 1:0

Гол: (8)

Склад: Шляхавой (Хіманыч, 46) – Курак, Кашкар, Судзін, Трындзюк – Дукса (Мазалоўскі, 59), Дзігілевіч, Карасёў, Грабаздзін, Кукалевіч (Жачко, 77) – Валовік

Матч атрымаўся нецікавым, хаця і сышліся каманды з верхніх паверхаў табліцы. Гаспадары павялі ў ліку, прабіўшы здалёк няўпэўненага Шляхавога. Да перапынку больш актыўнымі былі смаргонцы, пасля яго – абедзве каманды стварылі некалькі пагроз. Заключны націск гасцей плёну не прынёс.

| | |
|---|---|
| 1. ЗЛіН | 15 |
| 2. Лакаматыў (В) | 13 |
| **3. Смаргонь** | **12** |
| 4. Ведрыч-97 | 12 |
| 5. МТЗ-РІПА | 12 |
| 6. Граніт | 11 |
| 7. Хімік | 11 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

## Старты ў Кіеве

**МАЛАДЗЕЧНА. Спаборніцтвы абласной спартакіяды ДЮСШ у Мінску былі адборачнымі для ўдзелу на "рэспубліцы" ў Гомелі.**

Ва ўзросце 1986-87 г.н. першыя месцы занялі **Яўген Мучынскі** (800 м і 1500 м), **Дзяніс Гіль** (3 км і 5 км). Разам з імі прайшлі адбор **Аляксандр Камінскі** і **Вадзім Бабей**. Ва ўзросце 1988-89 г.н. першыя месцы ў звязках з чатырох відаў занялі **Марыя Крук, Алена Харытон, Дзмітрый Жыжла** і **Антон Балдоўскі**, і ўсе яны накіраваліся ў Гомель.

Там 12-14 мая старэйшыя аспрэчвалі права ўдзельнічаць у матчавай сустрэчы Украіна-Беларусь у Кіеве. Гэта ўдалося Мучынскаму, які перамог на дыстанцыі 3 км і стаў другім на 1,5 км. На жаль, Гілю перамога на 5 км была недасяжнай, а вось на 3 км ён быў толькі чацвёртым.

15-17 мая змагаліся малодшыя. З нашых адзначылася Крук. У яе 1 месца ў звязцы "скачкі ў вышыню – скачкі ў даўжыню – бег 100 м".

23 мая Мучынскі заняў у Кіеве 2 месца з 6 стартаваўшых удзельнікаў на 3 км.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

31 мая. 18-00. Смаргонь – Ведрыч-97 (Рэчыца)
+2=0-0 3-1. Летась 1:0 (Кошаль) на выездзе і 2:1 (Налівайка, Казлоў) дома

31 мая. Спартак-ВАР (Шклоў) – Забудова
+0=2-2 2-7. Летась 0:0 на выездзе і 0:3 дома

1 чэрвеня. Нафтан (Наваполацк) – Маладзечна-2000
+6=2-2 17-16. Апошні матч 22.09.01 "Нафтан" – "Маладзечна-2000" 0:1 (Міхалёў)

4 чэрвеня. 1/32 Кубка. Камунальнік (Жлобін) – Смаргонь

4 чэрвеня. 1/32 Кубка. 18-00. Забудова – Камунальнік (Слонім)

## ВІНШАВАНКІ

Дарагая **Яніна Казіміраўна Шэмет**!
Віншуем Вас з юбілеем!
Жадаем Вам моцнага здароўя,
доўгіх год жыцця, поспехаў ва ўсім.
... Наши годы тоже пролетят,
И желаем мы с огромной силой:
Ты живи ещё лет шестьдесят!
Будь здоровой, бодрой, умной, милой!!!
*Сын Саша, нявестка Лена.*

**Сароку Ірыну** з юбілеем! Жадаем шчасця, здароўя, кахання, удачы, сямейнага дабрабыту, бадзёрасці. *Света, Ала.*

Віншуем любімую матулю **Апяцёнак Валянціну Максімаўну** з 60-годдзем! Кахання, шчасця, моцнага здароўя, даўгалецця, дабрабыту. *Твае дзеці.*

Віншую з юбілеем сваю сяброўку **Кляшняк Марыю Мікалаеўну**. Здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця, радасці і ўдачы. *Сямон Ірына.*

Дарагую **Семантовіч Юзэфу Віктараўну** віншуем з юбілеем! Жадаем здароўя, шчасця, няхай здзейсняцца твае мары. *Твая сям'я.*

Віншую **Жука Андрэя, Зелянко Яўгенія, Рогача Аляксандра, Шабана Леаніда** з заканчэннем школы праз 1 дзень. *Краўчонак Марына.*

Жадаю ўсім маім **аднакласнікам** добра здаць уступныя і школьныя экзамены. *Краўчонак Марына.*

Віншую **Валюшку Іну і Карповіч Любоў**! Бо яны самыя лепшыя сяброўкі на свеце! *Ваша сяброўка Марына.*

Віншую **Пуставойтаву Алену** з юбілеем. Здароўя, дабрабыту, удачы, шчасця і грошай. *Ульчыц Ірына.*

Віншую **Валюшку Іну і сябе**! Што мы з'яўляемся адзінымі выпускніцамі Чурлёнскай сярэдняй школы. *Марына Краўчонак.*

Віншуем нашу любімую настаўніцу **Пушкарэвіч Людмілу Мікалаеўну**! З удзячнасцю, *11 клас.*

Віншую Чурлёнскую сярэднюю школу, **Кібалку Ігара Анатольевіча**! Першае месца па раёну — гэта вельмі выдатна! *Краўчонак Марына.*

Віншуем **Карыбу Зою Іванаўну**. Яна самы лепшы бібліятэкар у Вілейскім раёне! *Чытачы. Марына, Люба.*

Віншую дачушку і сястрычку **Вераніку** з тым, што яна заканчвае практыку. *Сям'я Краўчонкаў.*

Віншую з надыходзячым летам і дзякую сваім бацькам **Краўчонкам Алене і Алегу** за іх цярплівасць! Моцна вас кахаю! *Любімая дачушка.*

Віншуем **Дземяшкевіч Галіну Уладзіміраўну**. Вы самы лепшы дырэктар і настаўнік. *Ваш 11клас.*

Дарагая **Ванда**! Віншую цябе з юбілем. Жадаю: ад бога — здароўя, ад сонца - цяпла, ад людзей — дабра. *Зоя Раманава.*

Любімую сяброўку **Танечку** віншую з днём нараджэння! Жадаю шчасця, здароўя, удачы, вялікага і ўзаемнага кахання. *Твая Наташка.*

Віншую з днём нараджэння **Тоню Віржык**! Жадаю здароўя, шчасця, святочнага настрою, удачы і ўсяго найлепшага ў жыцці. *Эдуард.*

Віншуем з днём нараджэння **Гардынец Мікалая Іосіфавіча**! Жадаем шчасця, здароўя і ўсяго найлепшага. *Сям'я Аўгуць.*

■ ПАРАДЫ

# Што і як рабіць садаводу і агародніку

У чэрвені адцвітаюць пладовыя дрэвы, назіраецца інтэнсіўны рост пладоў і дружнае іх асыпанне. Тлумачыцца гэта тым, што пладоў завязалася ў некалькі разоў больш, чым лісце і карані могуць падаць да іх пажыўных рэчываў і вады. Таму карысна абарваць лішнюю завязь і пакінуць 1-2 у суквецці. Падкарміць дрэвы гноевай жыжкай (1:1), птушыным памётам (1:5) або аміячнай салетрай (25-30 г на 10 л вады). Раствор угнаенняў уносяць у канаўкі на акружнасці прыствольнага круга або ў лункі, а на ягадніках – у канаўкі ўздоўж радоў. Рыхтуюць падпоры.

Суніцы, каб не забрудзіць ягад, у чэрвені і ліпені не падкармліваюць. Паліваюць толькі пры вельмі сухім надвор'і, лепш усяго напускам па неглыбокіх канаўках, каб не змачыць лісцяў і ягад. Міжрадкоўі мульчыруюць або ўкладваюць пладаносныя суквецці на рагаткі, на шпалеры, пластмасавыя падстаўкі. Выполваюць пустазелле, рыхляць глебу.

У чэрвені найбольш праяўляюць сябе хваробы пладовых дрэў (парша, розныя гнілі), інтэнсіўна атакуюць сады шкоднікі (пладажэркі, тля, медзяніцы). Супраць іх выкарыстоўваюць адвары і настоі тытуню, махоркі, палыну. Прымяняюць іх пасля цвіцення або пасля ўтварэння завязі. Супраць медзяніц, пакуль яны яшчэ не пачалі адкладваць яйкі, дрэвы вечарам акурваюць спальваннем сухой травы, прэлага сена, хвойных іголак, дадаючы 1,5-2 кг тытунёвага пылу на сотку сада.

Згодна з месяцавым календаром, убіраць суніцы, парэчкі, чарэшні, раннія яблыкі найбольш мэтазгодна з 2 да 13 і 30 чэрвеня, а догляд за пасадкамі і ахову іх ад шкоднікаў праводзіць 4-6, 14, 17-19 і 22–28 чэрвеня.

Гэты месяц самы спрыяльны і для актыўнага росту агародных культур. Але ў чэрвені па месяцавым календары ёсць неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі ўсіх культур дні (4-6, 14, 15, 17, 18, 29, 30). У гэтыя дні праполвайце пустазелле, абараняйце расліны ад хвароб і шкоднікаў.

Супраць капуснай бялянкі, капуснай соўкі, тлі, молі і кляшчоў расліны на агародзе або дачным участку апырскваюць настоем бульбоўніку, дзядоўніку (лопуху). Настой апошняга прымяняюць у перыяд вылету матылёў і адраджэння вусеняў. Апырскваюць капусту 3-4 разы з перапынкамі ў 7-8 дзён. Адвар з пасынкаў памідораў прымяняюць супраць кляшчоў, клапоў, лугавых матылькоў, блошак. Расліны апырскваюць толькі вечарам.

Калі май быў халодны і нясмелыя агароднікі яшчэ не засеялі свае ўчасткі, то ў пачатку чэрвеня трэба гэта зрабіць.

У першыя дні месяца высяваюць і высаджваюць больш халадастойкія культуры, а пасля 8-10 чэрвеня, калі замаразкі ўжо малаверагодныя, высаджваюць расаду і высяваюць насенне ў адкрыты грунт агуркоў, памідораў і іншых цеплалюбівых культур. Падкармліваюць і паліваюць расліны ў залежнасці ад іх знешняга выгляду.

Найбольш спрыяльныя для сяўбы і пасадкі агуркоў і памідораў дні – гэта 2, 3, 11, 12, зеляніўных культур – 2, 3, 11-13; баклажанаў, кабачкоў і гарбузоў – 9-12; капусты – 2, 3, 9-12, цыбулі на зеляніну і перцу – 11-13; бульбы, рэпы, рэдзькі, буракоў і бручкі – 16, 24-26 чэрвеня.

Уборку агуркоў і зеляніны лепш праводзіць 11, 12 і 30, а караняплодаў і ранняй бульбы – 15–18, 20, 21, 27 і 28 чэрвеня.

**Альбін МАКАРЭВІЧ,**
**аграном.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**30 мая – 1 чэрвеня. "Каханне злое"**, ЗША, рамантычная камедыя – у 17.00. 31 мая і 1 чэрвеня – у 15.00 і 17.00.
**31 мая – 8 чэрвеня. "Сакратарка"**, ЗША, акрамя асоб да 18 гадоў, — у 19.00 і 21.10.
(Кожную сераду ільготныя білеты на сеанс у 17.00).

### Для дзяцей

**31 мая – 1 чэрвеня. "Спірыт – валадар прэрый"**, ЗША, поўнаметражны мультфільм – у 13.00.

## ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная жанчына 162/48/62 пазнаёміцца з добрым, ласкавым мужчынам, які выратуе яе ад адзіноты. Яна адкажа яму ласкай, каханнем. г. Маладзечна-4, п/д №04831691.

Цудоўны, забяспечаны мужчына шукае забяспечаную жанчыну для пражывання ў Мінску. 222310, Валожын, пошта, а/с 1.

Мужчына пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 32/188. Без праблем. Маладзечна-6, п/п МС0307723.

Прыстойная, адукаваная дзяўчына пазнаёміцца з маладым чалавекам ад 26 да 33 год, без шкодных звычак. Пра сябе: 25/170. Маладзечна, Галоўпаштамт, п/п МС0959655.

28/176/76 мужчына без шкодных звычак, разведзены. Шукаю жанчыну для сур'ёзных адносін. 222310 г. Маладзечна-6, д/з п/п МС0693516.

Свабодны, забяспечаны, без шк.звыч мужчына пазнаёміцца з жанчынай да 40 год. Маладзечна-4, МС0033116.

■ АСТРАНОМІЯ

# Майскае зацьменне

Зацьменні адносяцца да катэгорыі рэдкіх астранамічных з'яў, але два зацьменні, якія бачныя ў адзінакавых геаграфічных месцах на працягу месяца, – з'ява яшчэ больш рэдкая.

16 мая адбылося поўнае месяцавае зацьменне. З тэрыторыі Беларусі можна было ўбачыць толькі пачатак зацьмення пры захадзе Месяца ў паўднёва-заходнім сектары неба. Прычына месяцавых зацьменняў тоіцца ў супадзенні плоскасцяў арбіт Месяца і Зямлі, дзякуючы чаму Месяц пры сваім руху вакол Зямлі трапляе ў зямны цень. Калі б плоскасці абедзвюх арбіт супадалі, то ў кожную поўню мы любаваліся б месяцавым зацьменнем, але на самой справе плоскасці месяцавай і зямной арбіт перасякаюцца пад невялікім вуглом, таму на працягу аднаго каляндарнага года адбываецца 1-2 (радзей 3) месяцавыя зацьменні, але не заўсёды ўсе яны бачныя з адной і той жа кропкі Зямлі. Назіранні поўных зацьменняў Месяца ўяўляюць значную навуковую цікавасць, бо дазваляюць вывучаць структуру і аптычныя якасці зямной атмасферы, а таксама цеплавыя якасці розных участкаў месяцавай паверхні, у тым ліку і змяненне іх тэмпературы пры розных фазах зацьмення.

Абставіны кальцападобнага сонечнага зацьмення 31 мая 2003 года спрыяльныя, паколькі з'ява пачнецца ў 5 гадзін 27 хвілін пры вышыні Сонца над гарызонтам каля 4 градусаў, максімальнай фазы з'ява дасягне ў 6 гадзін 25 хвілін (фаза каля 0.8) пры вышыні Сонца каля 11 градусаў над гарызонтам. У гэты момант большая частка сонечнага дыску будзе схавана ад нас Месяцам. У гэты момант Сонца будзе бачна як тонкі серп ("рагамі" ўверх). Магчыма, што на кароткі час стануць бачны яркія зоркі на небе (напрыклад, Венера і Меркурый). Закончыцца з'ява ў 7 гадзін 27 хвілін. Каб убачыць зацьменне, выкарыстоўвайце цёмнае шкло ці складзеную ў некалькі слаёў фотаплёнку. Абставіны зацьмення разлічаныя для геаграфічных каардынат Маладзечна з выкарыстаннем камп'ютэрнай праграмы-планетарыя "StarCalc". Наступнае зацьменне Сонца мы ўбачым толькі 3 кастрычніка 2005 года.

Сутнасць з'явы заключаецца ў закрыцці сонечнага дыска Месяцам, пры яго руху вакол Зямлі. Калі бачны дыяметр дыска Месяца некалькі меншы сонечнага, то ў час поўнай фазы мы ўбачым сонечны абадок-кальцо, і такое зацьменне называецца кальцападобным. Калі ж бачныя дыяметры дыскаў Сонца і Месяца супадуць, то зацьменне будзе поўным.

**Іван СЯРГЕЙ,**
**астраном-аматар,**
**г.Маладзечна.**

■ ІМЯНІНЫ

**30 мая**
**Праваслаўныя**: Еўдакіі, Андроніка, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Фелікса, Фердынанда, Яна.

**31 мая**
**Праваслаўныя**: Аляксандры, Клаўдзіі, Матроны, Фаіны, Хрысціны, Юліі, Андрэя, Багдана, Давыда, Дзяніса, Іраклія, Ісака, Паўла, Паўліна, Пятра, Сямёна, Фядота.
**Каталіцкія**: Анелі, Петранелы.

**1 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Акакія, Дзмітрыя, Івана, Ігната, Карнілы, Патрыкія, Сяргея.
**Каталіцкія**: Кандрата, Якуба.

**2 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Аляксея, Цімафея.
**Каталіцкія**: Марыі, Маркела, Эразма.

**3 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Алены, Канстанціна, Касьяна, Міхаіла, Фёдара.
**Каталіцкія**: Клацільды, Лешка.

**4 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Івана, Уладзіміра.
**Каталіцкія**: Кароля, Францішка.

**5 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Ефрасінні, Марыі, Абрама, Андрыяна, Аляксандра, Андрэя, Васіля, Давыда, Данілы, Дзмітрыя, Івана, Ігната, Ісая, Канстанціна, Касьяна, Лявона, Мікіты, Міхаіла, Пятра, Рамана, Севасцьяна, Сільвестра, Фёдара, Якава.
**Каталіцкія**: Валерыі, Баніфата.

■ КОНКУРСЫ

## Віляйчане наперадзе

**ВІЛЕЙКА. 27 мая адбыўся занальны конкурс прафесійнага майстэрства супрацоўнікаў дарожна-патрульнай службы, які сабраў каманды з Валожына, Вілейкі, Маладзечна і Мядзела.**

Першае месца занялі віляйчане. Каманда складалася з супрацоўнікаў Аляксандра Скадорвы, Андрэя Дубаўца, Віталія Дзяругі. Наступныя месцы занялі каманды з Мядзела, Валожына, Маладзечна. У конкурсе правяралася тэарэтычная і фізічная падрыхтоўка, уменне страляць, фігурнае кіраванне аўтамабілем і ручное рэгуляванне руху. Каманду-пераможцу чакае абласны конкурс, які пройдзе 5 – 6 чэрвеня ў Салігорску.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Расказ аб вандроўцы

**ВІЛЕЙКА. У мінулым нумары "РГ" мы пісалі пра гістарычную вандроўку па Вілейскім і Мядзельскім раёнах, якую зладзіў сябар Маладзёжнага грамадскага аб'яднання "Гісторыка" Аляксей Чубат.**

Пасля вандроўкі сярод удзельнікаў аб'явілі літаратурны конкурс "Край чароўнай гісторыі". На ўдзел у ім адгукнуліся чатыры вучні, якія і падзялілі паміж сабой прызавыя месцы.

Першае заняў Павел Шышпар за прыгожае эсэ "Цудоўныя старонкі даўніны". Другое месца падзялілі вершы Дар'і Лазаравай і Руслана Саковіча. А 3-е месца заняў Іван Хадзінскі з артыкулам аб Вілейскіх мясцінах. Пераможцы атрымалі ў падарунак кнігі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Купон 22

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

